


XX Трыялог у Крынках ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Памяці белавежскіх жыдоў ➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 37 (3305) Год LXIV Беласток, 15 верасня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Фільм са смакам беларускага шчасця!

Не люблю два разы глядзець той самы фільм, але «Канцэрт жыцця» пагляджу яшчэ нераз з цікавасцю. І напэўна «ўгашчу» ім сваякоў, якія з'явяцца да мяне на сямейнае свята. Бо дакумент Колі Ваўранюка гэта больш чым дакумент. У ім атмасфера, якая напамінае смак беларускага шчасця. Там наш сваяцка-падляшскі свет, які абараняецца дабрынёй і песняй ад асімілятыі і знікнення. «Канцэрт пажаданняў, — як прызнаюцца самі героі фільма, — перадача, якая вяртае ахвоту жыць».

* * *

— Я гэты фільм рабіў пяць гадоў, — кажа Коля Ваўранюк, — некаторых герояў няма ўжо ў жывых. Час хутка ляціць, заціраюцца сляды.

Сапраўды, час ляціць хутка і мала што прыкмячаем з жыцця і яго малых радасцей. Коля Ваўранюк прыкмеціў феномен беларускага канцэрта пажаданняў. Героі фільма ўсведамляюць нам наколькі паспяховым аказаўся праект Радыё Рацыя. Рэжысёр глядзіць на ўсё з сярэдзіны, таму яго беларускі свет праўдзівы і на свой спосаб каларытны. Гэта таксама заслуга сцэнарыя і інтэлігентных лірычных адступленняў. Пераказ ідзе на розных узроўнях, фактаграфічныя звесткі папаўняюцца эмацыйнымі партрэтамі, музыкай, краявідам. Цэнтральнае месца, як і ў падляшскім канцэрце, займае сям'я Янкі Трафімюка з Гайнаўкі. Сямейка, хоць рассеяная па Еўропе, сустракаецца за багатым застоллем у Старыне, пры гуках канцэрта. Гледачы ўпершыню бачаць славутага спадара Янку, прыкмячаюць у ім уражлівага, лірычнага чалавека. Маладыя, што прыехалі дамоў з Нідэрландаў, прызнаюцца ў настальгіі па сваім родным кутку. У доказ патрыятызму спяваюць песню часоў айчыннай вайны пра вывазкі на прымусовыя работы ў Германію: *Прашчайце вуліцы раднога горада, прашчайце мілыя отец і мать. Еду в Германию, на мукі голада, еду в Германию я пагібать...*

Песня пра жахі вайны зліваецца з нідэрландскімі карцінкамі, дзе сярод кветак у цяпліцы працуе наша настальгічная гераіня. Спалучэнне само па сабе народнае і непаўторнае.

* * *

А вось у Чыжах гаспадару не выпадае слухаць канцэрта інакш як за работай. На першым плане едзе Валодзя Адамюк. Колы трактара грукацяць па брукаваным панадворку, характэрным для чыжавянбагацеяў. Валодзя паедзе баранаваць зямлю пад агарод і адначасова будзе сачыць, каб не праваароніць гадзіну, калі пачынаецца канцэрт па Радыё Рацыя. Любімую перадачу выслухае, як гэта прынята на вёсцы, у мужчынскай кампаніі. Тут жа Яраслаў Бількевіч, спявак гурта «Чыжавяне», лістаноша і гарачы прыхільнік канцэрта. Кожны тыдзень ён аб'язджае пушчанскія вёскі і кожны тыдзень вітае добрым словам сваіх кліентаў. Яраслаў дапамагае таксама дазваніцца на радыё, за што жанчыны ўгашчаюць яго варэнікамі. Як не цікава, слухачы канцэрта шлюць пажаданні не толькі родным і сваякам, як прынцып яны вітаюць вядучых і ўсіх слухачоў. Ды скажуць гэта так шчыра, што кожны адчувае сябе павіншаваным.

Валянціна Мядзведзь з Беластока да кожнай перадачы рыхтуецца як да вялікага свята. Пасля сядае ў мяккае крэсла і тры гадзіны слухае канцэрт. Гэта яе лякарства на самоту і дэпрэсію. Настрой разгубленасці падбіваюць шэрыя, бяздушныя будынкі блёкаў па вуліцы Святога Война. «Ужо для самой пані Валянціны, — думае глядач, — варта было прыдумаць гэты канцэрт пажаданняў».

* * *

Бо і сцэнарый фільма прыдуманы так, што лепш не прыдумаеш. Яго сашпільваюць прыватныя каментарыі ў выкананні пажылога беластоцкага сужонства. Яны — пенсіянеры, наскрозь свае людзі. Ведаюць напралёт усіх пастаянных удзельнікаў канцэрта і вядучых, пра якіх выказваюцца на фамільярнай ноце. Менавіта па іх колкіх каментарыях глядач разумее наколькі папулярная асоба Янкі Трафімюка. Вось яны шчыра, з непрыхаванай зайздрасцю гадаюць, ці той не забудзе пералічыць усю сваю вялікую сям'ю і яшчэ большае кола знаёмых у эфіры...

— І як ён туды звоніць, што кожны раз яго чутна?

Канцэрт пажаданняў, — кажа пра сябе сужонства, — гэта іх тры гадзіны маладосці ў тыдзень, пасля якіх зноў нахлынаюць старасць і хваробы. Свае жартоўныя, колкія заўвагі пенсіянеры шпурляюць раскошна, лежачы на канапе.

Пасля праекцыі размаўляю з гераіняй — паняй Аляксандрай:

— Мы то не слухалі *радзіва* лежачы, — патлумачыла спадарыня Аляксандра, — але рэжысёр нас прымусіў.



Ці слухалі ў кожную суботу?

— Так, чакалі калі пачнуць гаварыць і іграць. То ж прыемна, калі людзі гавораць для іншых добрыя словы.

Ім толькі адзін раз пашанцавала дазваніцца, перадаць пажаданні. Пытаю, ці падабаўся фільм? У адказ спадарыня Аляксандра абдымае мяне і плача. Кажа, што ўжо два гады як мужа няма ў жывых. А то такая памятка на ўсё жыццё засталася...

* * *

Фільм Колі Ваўранюка прыпісаны на поспех!

Сустракаемся на першай прэм'еры ў беластоцкім Цэнтры імя Заменгофа 30 жніўня г.г. Фільм апынуўся ў праграме Фестывалю «Усход культуры» як прапанова Аб'яднання АБ-БА, якое з'яўляецца таксама яго прадзюсарам. Сярод публікі многа бацькоў вучняў з беластоцкай «чацвёркі». Ёсць журналісткі Радыё Рацыя — Валя Лаеўская і Аня Шайкоўская, гераіні фільма.

Прыйшлі людзі з горада, прыехалі з вёсак і гарадкоў, напрыклад Анна Несцярук з Орлі. Яна запрасіць Міколу Ваўранюка на прэзентацыю ў Шчыты. Пасля праекцыі гасцей і герояў чакае добры, беларускі пачастунак. Людзі захоплены пабачаным і перажытым, размаўлялі на сардэчнай ноце, пыталі пра сям'ю, цікавіліся планамі. Усе адчувалі, як «Канцэрт жыцця» падняў іх настрой, павесяліў. Каб заахвоціць іншых пагледзець «Канцэрт жыцця» прапануем яшчэ анонс на польскай мове, падрыхтаваны на фестываль «Усход культуры»:

*„Podlaski koncert życzeń" w białoruskim Radiu Racja to trzygodzinny sobotni program i dla wielu słuchaczy najważniejsze wydarzenie tygodnia.*

*Koncertu słucha się w samotności i skupieniu, ale też z sąsiadami, za biesiadnym stołem lub w pracy. Na antenie mówi się po białorusku, polsku i wszystkich możliwych dialektach i mieszankach polsko-białoruskich używanych w regionie.*

*Opowieści słuchaczy układają się w filmową panoramę dużej części Podlasia, którą warto bliżej poznać! Producentem filmu „Koncert życia" w reżyserii Mikołaja Wawrzeniuka (zdjęcia. Roman Wasiluk) jest Stowarzyszenie na rzecz Dzieci i Młodzieży Uczących się Języka Białoruskiego AB-BA.*

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**





# Помнікі і ідэалогія

За апошнія два тыдні ў двух слаўных беларускіх гарадах былі адкрыты два помнікі славутым продкам. У Слоніме ў Дзень беларускага пісьменства жыхарам і шматлікім гасцям горада ўрачыста прадставілі помнік канцлеру нашага Вялікага Княства Літоўскага, выдатнаму дзяржаўнаму дзеячу Льву Сапегу. Праз тыдзень, у рамках штогадовага фэсту Lidbeer не менш ганарова і натхнёна шматлікія насельнікі і госці Ліды віталі адкрыццё помніка князю Гедыміну на кані. Менавіта гэты князь у чатырнаццатым стагоддзі заснаваў славуты мясцовы замак, які бараніў жыхароў горада ад нашэсця крыжакоў.

У культуры сучаснай Беларусі ўсталяванне гэтых двух помнікаў стала сапраўды вялікай нацыянальнай падзеяй. Нарэшце ў нашых славутых гарадах можна пабачыць не толькі помнікі правадыру сусветнага пралетарыяту Леніну ды яго шматлікім, пераважна крывавым памагатым, якія нішчылі насельнікаў Беларусі і сам край. Гэтых помнікаў чакалі многія гады, нават дзесяцігоддзі. Іх усталяванне набліжалі мясцовыя грамадскія актывісты, краязнаўцы, гісторыкі, якія пісалі шматлікія звароты, папулярызавалі лакальную і агульнанацыянальную гісторыю, рыхтавалі грамадскую думку. Іх мары і памкненні цяпер здзейсніліся.

Хочацца верыць у тое, што нарэшце дзяржаўныя ўлады пачынаюць разумець — без вяртання сапраўдных гістарычна-нацыянальных каштоўнасцей нашы гарады не будуць цікавымі замежным турыстам. Што ў кожным нашым горадзе і нават мястэчку, багатым на старадаўнюю гісторыю, павінен быць свой брэнд, свой знакавы цэнтральны помнік, свае памятныя шыльды. Зараз становіцца больш гарадоў, якія ўжо могуць ганарыцца паўнавартаснымі помнікамі славутым продкам. У Віцебску можна ўбачыць князя Альгерда, у Гродне — князя Давыда Гарадзенскага, у Навагрудку — князя Міндоўга, святога Елісея Лаўрышаўскага і Адама Міцкевіча, у Лідзе — князя Гедыміна, у Слоніме — канцлера Льва Сапегу, у Тураве — асветніка і святога Кірылу Тураўскага, у Косаве — Тадэвуша Касцюшку, у Полацку — асветніцу і святую Ефрасінню Полацкую і асветніка-першадрукара Францішка Скарыну. Як відаць з пераліку, за рэдкім выняткам, — пераважна гэта людзі старажытнасці і сярэднявечча. Гэты пласт нашай гісторыі дзяржава збольшага ўжо прыняла. На чарзе пазнейшыя ліцьвінскія і беларускія дзеячы дзявятнаццатага-дваццатага стагоддзяў. Іх Рэспубліка Беларусь пакуль ушаноўваць не хоча. Бо ўсё азіраецца на Маскву, многія айчынныя чыноўнікі (мясцовыя, не прыхадні, не чужынцы!) упарта працягваюць палітыку русіфікацыі, ігнаруючы беларускае. Таму і няма належнага прызнання і ўшанавання ні Кастуся Каліноўскага, ні Ларысы Геніюш, ні Васіля Быкава. Пра дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, пра вяяроў-змагароў з расейскім бальшавізмам Станіслава Булак-Балаховіча, Янку Філістовіча, Расціслава Лапіцкага, пра многіх выдатных дзеячаў — ахвяр сталінскага генацыду і гутаркі няма. Іх імёны для шырокага кола грамадзян Беларусі пакуль у нябыце. А колькасць помнікаў розным бальшавікам, саветам, камуністам, якія альбо пакінулі на гэтай зямлі крывавы след, альбо ўвогуле ніколі не былі ў Беларусі і не мелі да яе дачынення, перавышае ў дзясяткі разоў колькасць помнікаў дзеячам і прадстаўнікам нацыянальнай гісторыі.

Сучасным ідэолагам Рэспублікі Беларусь варта задумацца, што ў разе паглынання Масквой нашай дзяржавы, месца ў далучанай да імперыі краіне не будзе ўжо нікому — ні змагарам за беларускасць, ні гэтым ідэолагам, ні вышэйшым чыноўнікам сённяшняй Беларусі, уключна з „вярхоўным галоўнакамандуючым”. І зыходзячы хоць бы з такога інстынкту самазахавання, весці дзяржаўную палітыку. Вось зараз у Беларусі праходзяць так званыя „выбары”, дакладней сказаць „вырабы”, у парламент. Як толькі будуць зарэгістраваны ўсе кандыдаты, адразу беспамылкова можна складаць спіс „абраных” „дэпутатаў”. Усім па папярэдніх такіх кампаніях вядома, як фармуецца гэты парламент. То галоўныя ідэолагі маглі б падумаць, каб не пхнуць у гэты заканадаўчы орган адыёзных людзей, тых, якія выразна вызначыліся сваёй антыбеларускай пазіцыяй. А такія вылучэнцы ўжо выплылі на паверхню. А прызначаць у гэты квазіпарламент хоць бы тых функцыянераў, якія здольныя да нейкага грамадзянскага кампрамісу, пошуку згоды і арыентацыі на сваё.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Нічога больш за гэта

Мы, людзі, дзіўны від. Нам заўсёды не хапае чагосьці, каб адчуць поўнае шчасце. Нават калі б гэта было толькі «трошкі», мы ўжо адчуваем сябе непаўнавартаснымі, недаацэненымі альбо недарэчна прысаромленымі. Няшчаснымі. Магчыма, прычынай гэтага, што мы не можам быць проста шчаслівымі, з'яўляецца суперажыванне альбо спачуванне іншым, чым нас забяспечыла Прырода. Ці Бог. Яны аднаго ў гэта забяспечылі багата, а другога зусім. Аднаго зрабілі яны ў вобразе св. Францыска, а другога — абсалютнага садыста. Эвалюцыяністы адказалі б на гэтае пытанне так, крэацыяністы інакш. Іх высновы будуць кожны раз розныя. Гэтыя крайнасці, таксама ў дыскурсе пра паходжанне чалавека, вызначаюць чалавечыя супольнасці, іх культурную структуру, іерархію каштоўнасцей і само іх існаванне тым, якое яно ёсць, а таксама маральныя паводзіны, вызначэнне паняццяў дабра і зла. У апошнім выпадку адно вызначае другое. І наадварот. Гэтак жа, як чорнае — белае, святло — цень. У першым выпадку самі крайнасці неабавязкова вызначаюцца самімі сабой.

Цікава, якім быў бы наш свет, калі б мы ўсе былі, але абсалютна ўсе, падобныя на святога Францыска? І ці магчымы такі свет? Возьмем, напрыклад, толькі палітыкаў — самых святых Францыскаў! Вядома, не было б ні тых, хто «злева», ні «справа», ні з ГП, ні з ПіС. Не было б брыдкіх зняваг, якія з'яўляюцца непарыўнай часткай палітычнай прапаганды, ні штодзённых паклёпаў і апаганьвання. І невядома, ці патрэбна была б нейкая палітыка. Палітыка, палітыкі... І я нават рашаюся сумнявацца, ці патрэбна была б нейкая царква. Так бывае, калі ўсе, а не толькі палітыкі, святыя. Здаецца, аднак, што я пачынаю фантазіраваць. Аднак дазвольце мне сказаць, што, на мой погляд, мы ўсе святыя Францыскі. Спачувальныя істоты, адчувальныя да пакут, як людзей, так і меншых братоў. Але ў пэўным сэнсе мы ўсе садысты, мазахісты, злачынцы... Усе па-трошку. Насамрэч мы толькі «крыху» адрозніваемся паміж святымі Францыскамі і звычайнымі злачынцамі. Дастаткова спаслацца на выдатны твор Ганны Арэндт «Банальнасць зла: Эйхман у Іерусаліме». Развагі гэтай ізраільскай філасофкі сорамна балючыя. Мяжа паміж дабром і злом гэтак жа банальная, як і абставіны, якія робяць нас дрэннымі ці добрымі. Зло — частка нашай ідэнтычнасці, хочам мы гэтага ці не, хаця мы стрымліваемся ад такой ідэнтычнасці.

Я не ведаю, як гэта робяць іншыя, але я сам вельмі, вельмі. Дык што? Эйхман проста пасрэдны чалавек, кропкава падобны на кожнага з нас і на мяне таксама: ні геній, ні вар'ят, ласкавы муж і бацька, сябар шматлікіх сяброў, веруючы і практыкуючы католік, а заадно адзін з найвялікшых нацысцкіх злачынцаў, адказных за пакутніцкую гібель соцень тысяч яўрэяў, нават перад катам не разумеў сваёй чалавечай банальнасці. «Я выконваў толькі загады. Больш нічога!»

Што тычыцца класічнага садыста (Эйхман, безумоўна, не быў ім), які, я лічу, цалкам пазбаўлены эмпатыі, наўрад ці можа зразумець, чаму ён прычыняе пакуты Іншаму. Перш за ўсё таму, што гэта надзвычай паталагічнае стварэнне і не адчувае як чалавек псіхічнага ці духоўнай прыгнечанасці. Не адчувае, што не значыць, што ён не ведае пра гэтую катэгорыю пачуццяў. Але ён гэтага не адчувае. Але справа не ў зубным болю. Магчыма, таму ён мучыць Іншага таму, што яго спальвае падсвядомае і неспатольнае жаданне выпрабаваць паўнату чалавечых пачуццяў, назіраючы чужыя пакуты. Магчыма... Прызнаюся, гэта даволі рызыкоўная гіпотэза. Але што там! На жаль, увесь спектр дабра і зла цалкам чалавечы. І з гэтым трэба справіцца. Такім чынам з пакалення ў пакаленне святыя Францыскі і бязлітасныя садысты суіснуюць побач. У кожным з нас. Кожны з нас, але ў залежнасці ад знешніх абставін, ідэалагічных ці светапоглядных плыняў, актуальнай маральнай тэндэнцыі нейкім чынам душыць у сабе некаторыя схільнасці альбо пацвярджае іншыя. Тым не менш, статыстычна кажучы, мы дастаткова суперажывальныя, каб адчуць пакуты Іншага. Пакуты Іншага — відовішчны прыклад. Мы фізічна не ўдзельнічаем у гэтых пакутах, але можам зразумець, што адчувае пакутнік. Бо мы таксама пакутуем. Так больш ці менш. Гэта датычыцца і сітуацый, калі хтосьці побач з намі сумуе або радуецца — хай нават з-за галоўнай перамогі ў латарэі. Ну, і ў такой сітуацыі прыроднае суперажыванне пачынае «калоць» нас чалавечай зайздрасцю, што паказвае, што эмпатыя сама па сабе мае не толькі станоўчае значэнне.

**Міраслаў ГРЫКА**

Сваімі вачыма



# Сплінне ў Вэрстоку (2)

У папярэднім нумары «Нівы», пішучы пра духоўна-прыродны вобраз свята Успення Маці Божай у маёй парафіі ў Вэрстоку, узгадаў я таксама, што царкоўны фэст пры нагодзе выконвае таксама своеасаблівую ролю грамадскага сходу, калі вернікі, асабліва мужчыны, могуць абмяняцца думкамі наконт спраў не звязаных толькі са здароўем. Дзень прыхадскога свята заўсёды бывае важным момантам у жыцці парафіі, зручнай нагодай для таго, каб урачыста завершыць і асвяціць розныя ініцыятывы, звязаныя з функцыянаваннем і патрэбамі вернікаў. Вядома, што тут вынікі залежаць перш за ўсё ад актыўнасці настаяцеля і прыхадскога камітэта. У выпадку вэрстоцкага то яму зараз шанцуе дзякуючы бацюшку Паўлу Кучынскаму, якога гаспадарлівасць шырока вядомая ў праваслаўным падляшскім свеце. Ну і царкоўны камітэт пад старшынствам старасты Віктара Патэюка з Забагоншчыны разам з усімі вернікамі не толькі фінансуе, але і на грамадскіх пачатках выбудоўвае сваю царкву. Ці ж яшчэ не адным тым промыслам Божым з'яўляецца той факт, што на Сплінне менавіта наш стараста святкуе свой дзень нараджэння? Я вельмі ганаруся, што мы з ім — блізкія сямейнікі, таму што мая бабуля Олька гэта родная сястра ягонай маці Хвядоры. Таму таксама добра ведаю, пра што моляцца штодзень прыхаджане і што абмяркоўвалася пад царквой у святочны дзень. Ці то ў ціхай малітве, ці ў публічных выказваннях усе не хочуць дапусціць думкі, што мітрапаліт Сава можа захоча забраць адсюль айца Паўла і перавесці яго ў другую парафію, каб там наводзіў парадкі на радасць Усявышняму і славу Царквы. Ходзяць чуткі, што вернікі іншых парафій вельмі хацелі б бачыць айца Паўла ў сябе, але ён не пакідае сваіх пушчанскіх вернікаў, толькі робіць усё магчымае, каб натхніць іх радасцю і надзеяй на зямное і вечнае жыццё.

І менавіта айцец Павел і гэтым разам са сваім прыхаджанамі паказаў, што памяць пра мінулае і думка пра будучыню — неад'емныя часткі сакральнага і свецкага парадкаў. Па-першае, настаяцель сам пайшоў з кружкай, каб сабраць ахвяраванні на аднаўленне магілы былога шматгадовага пробашча Грыгорыя Пашчэўскага, які павянчаў, ахрысціў (у тым ліку і мяне) большую частку сённяшніх парафіян. Гісторыя айца Пашчэўскага, украінца, які палюбіў пушчанскіх беларусаў і падтрымліваў нашу тоеснасць, гэта справа, якае патрабуе архіўных пошукаў і асобнага артыкула. На ягонай магіле, дзе пахаваны разам з братам, віднее надпіс: «Україно, Україно і тут твої діти». І ніхто пад царквой не шкадаваў папяровых купюр, каб падтрымаць высакародную ідэю. Айцец Павел уручыў таксама царкоўныя ордэны ўсім тым, хто дапамагаў звонку пры працах у Вэрстоцкім прыходзе. Чарговы раз сярод узнагароджаных апынулася кіраўніцтва гайнаўскага арышту, вязні якога працуюць у царкоўнай прасторы ў карысць свайго духоўнага развіцця. Ну і яшчэ важнай падзеяй было асвячэнне рэканструяванай старой плябаніі, якая цяпер стала архітэктурнай жамчужынай і служыць усёй парафіі.



У час хрэснага ходу быў асвечаны крыж у памяць спаленых у маі 1945 года атрадам Зыгмунта Шындзеляжа «Лупашкі» прыхадскіх вёсак Вілюкоў і Доўгага Броду, а таксама Залешанаў — усе вёскі ў Кляшчэлеўскім благачынні. Для мяне, маіх бацькоў, аднавяскоўцаў гэта вельмі кранальны момант. Чалавечая крыўда, траўма, трагедыя ўзніклыя толькі таму, што мы, беларусы, засталіся сабою, запісаліся на памятным крыжы. Гэта крыж цярпення і вызвалення, але і вечнай памяці. Дачакаліся!

**Яўген ВАПА**

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## XX Трыялог Вілы Сакрата ў Крынках

# Беларуская выспа. Няма чаго наракаць?

«На працягу апошніх 19 гадоў Фонд Villa Sokrates арганізоўвае Беларускі Трыялог у Крынках — міждысцыплінарнае высокага рангу мерапрыемства, якое спрыяе стварэнню міжнароднага дыскурсу і камунікацыйнага ўзаемадзеяння, арыентаванага на розныя сферы творчасці», — інфармуюць арганізатары, Фонд Віла Сакрата, якія маюцца за вучняў, пераемнікаў і прадаўжальнікаў ідэй Сакрата Яновіча з Крынак. Сёлетні, ужо дваццаты, Трыялог у Крынках быў арганізаваны Фондам Віла Сакрата пад лозунгам «Сёння» — напісаным на беларускай, польскай і англійскай мовах. Мадэратарам дыскусій у Крынках (у былой Каўказскай сінагозе, сёння гэта крынкаўскі дом культуры) быў Лявон Вольскі — культавы беларускі рок-музыка, вакаліст і гітарыст легендарных гуртоў «Mroja», «NRM» ці «Крамбамбуля», якому гадамі забаранялася выконваць свае творы ў Беларусі.

Перад чарговым выпускам Трыялогу святар і пісьменнік Кастусь Бандарук пісаў у сваім эсэ, да якога тэзісаў ставіліся ў дыскусіях, сабраныя **6 і 7 верасня 2019** года ў Каўказскай сінагозе ўдзельнікі Трыялогу. «Тэма сёлетняга Трыялогу «Сёння. Dzisiaj. Today» падаецца надта агульнай. Адразу можа ўзнікнуць думка: ці ўся Беларусь, ці можа нейкая сфера жыцця? (...) Ушаноўваючы памяць і працягваючы ідэю ініцыятара Трыялогу — Сакрата Яновіча ў першую чаргу засяроджваемся на дарагой яго сэрцу культуры». Ён выклаў м.інш. тэзісы пра тое, што Беларусь сёння — гэта перыферыйная краіна, з перыферыйным комплексам, малавядомая, якая функцыянуе па-за ўвагай свету, краіна шматлікіх парадоксаў і страчаных магчымасцей, аб якой існуе шэраг стэрэатыпаў, падзеленая на два лагеры з сутыкненнем двух ідэалогій: нацыянальнай (дзяржаўнай, створанай Аляксандрам Лукашэнкам на аснове калгасаў і постсавецкай калектыўнай памяці беларусаў) і нацыянальнай ідэяй (з неабходнасцю пабудовы, умацоўвання ўласнай, незалежнай беларускай ідэнтычнасці). «Страчаныя шанцы. Роля нацыянальнага характару. Мова. Ці можна быць беларусам не па-беларуску...» Аўтар паўтарае: **трэба рабіць сваё**. Не чакаць цуду! Не плакаць і енчыць, што мова гіне, краіна гіне. (...) Межы змяняюцца, мова змяняецца, але Беларусь застаецца ў сэрцы». Хаця ўдзельнікі панэляў не ва ўсім згаджаліся з эсэістам, як адзначылі — з вялікай удзячнасцю і прыемнасцю пазнаёміліся з выдатным тэкстам К. Бандарука.

**КОЛЬКІ БЕЛАРУСЕЙ?**

Асноўнай часткай Трыялогу — надзвычай важнай падзеі не толькі ў інтэлектуальным жыцці Польшчы і Беларусі — сёлета таксама былі дэбаты. Гадамі Трыялогі засяроджваліся на беларускай літаратуры. Яшчэ пры жыцці Яновіча, але асабліва пасля яго смерці (у лютым 2013 года), новая арганізацыя (дзейнічала раней заснаванае С. Яновічам Stowarzyszenie Villa Sokrates) Фонд Віла Сакрата з сусветнай вядомасці мастаком з Валіл Лявонам Тарасэвічам крыху змянілі іх формулу — тэмы былі пашыраны, уключылі праблемы ў іншых сферах культуры і грамадскага жыцця, у асноўным датычныя беларусаў і беларушчыны. У першай панэльнай дыскусіі «**Беларуская рэчаіснасць**» удзельнічалі: Раман Чэпэ — кандыдат на восеньскіх парламенцкіх выбарах ад імя ПіС, былы дэпутат Сейма, віцэ-староста Беластоцкага павета, паэт, тэолаг, некалькі гадоў таму дарадца Падляшскага ваяводы па пытаннях нацыянальных і этнічных меншасцей (сам вызначаецца як паляк-католік), Марыюш Машкевіч — філосаф, рэлігіязнаўца, сацыёлаг, у 1998-2002 гадах пасол Польшчы ў Беларусі, у 2007 г. дарадца прэм'ера РП па ўсходняй палітыцы, пасля намеснік дырэктара ўсходняга дэпартамента Міністэрства замежных спраў, ды Васіль Сегень — намеснік старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства, былы навуковы супрацоўнік кафедры беларускай філалогіі Беластоцкага ўніверсітэта. У гэтым і наступных панэлях спасылаліся яны на тэкст Кастуся Бандарука.









**Марыюш Машкевіч** падкрэсліў: «Беларусь вельмі цікавая і важная краіна. Думаючы пра Беларусь, мы прызвычаіліся да шаблонаў, заснаваных на стэрэатыпах, што Беларусь перыферыйная краіна і нікога не цікавіць. Гэта выклікае ўва мне супраціў. Беларусь знаходзіцца ў цэнтры Еўропы. Пытанне толькі ў тым, як «прадаць» тое, што ў ёй цікавае. Ёсць адна Беларусь са шматмернай каляровай палітрай поглядаў і паводзін. (...) За Беларуссю па-ранейшаму валочыцца посткамуністычны хвост — яна ўсё яшчэ выходзіць з эпохі камунізму, калі яна была самай перадавой у яго будаўніцтве сярод краін былога СССР. (...) Беларусь шмат у чым вельмі праеўрапейская краіна. Гэта краіна, якая пасля выхаду з камунізму ўсё яшчэ шукае свой шлях. Аднак, адносіны паміж Беларуссю і Заходняй Еўропай паглыбляюцца».

**Раман Чэпэ** быў упэўнены: «Безумоўна, мы як самаўрадаўцы павінны супрацоўнічаць з Беларуссю, незалежна ад сістэм. На гэта павінны ісці дадатковыя грошы. Супрацоўніцтва змяняе адносіны паміж людзьмі. З гэтага ўзнікае польска-беларускае братэрства». Згадаўшы тэзіс пра перыферыйнасць Беларусі, Р. Чэпэ заявіў: «Пагарда да свету — гэта перыферыйнасць. Сёння няма канца свету. Канец свету гэта там, дзе пэўныя каштоўнасці не захоўваюцца», — і прызнаўся пры нагодзе: «Я кахаю Царкву. Католік не можа не кахаць Царквы. Я быў бы рады, калі б літургіі ў ёй у Польшчы вяліся па-беларуску, каб такім чынам абараняць беларускую самабытнасць. Вы, як праваслаўныя, павінны ўплываць на гэта».

Р. Чэпэ дадаў, спасылаючыся на вобраз беларусаў, створаны на Беласточчыне: «Я стаміўся ад гэтай «цэпэліяды». Трэба рашуча падтрымліваць беларускую лакальнасць, натуральную, знізу» — і дадаў: «Беларусь павінна далучыцца да ЕС. Вы асуджаныя на гэты элемент».

Раман Чэпэ заявіў пры нагодзе і асцерагаў, што сярод польскіх нацыяналістаў «ёсць шмат маскоўскай агентуры», і пасля гэтага ён абвясціў, што не варта баяцца складаных тэм, звязаных з агульнай польска-беларускай гісторыяй (напрыклад, праблемы з памяццю пра «Бурага», які для палякаў — герой, а для беларусаў — злыдзень). «Нельга перашчыраваць у любым кірунку. Нельга гуляць у гісторыю».

**Васіль Сегень** выказаў перакананне: «Перыферыйнасць не заўсёды азначае нешта дрэннае». Ён згадаў мову, якая дзякуючы ёй захоўвае каштоўныя, архаічныя рысы, і на стыку ўсходняй і заходняй цывілізацыі нараджаюцца новыя, цікавыя з'явы. «Перыферыйнасць — гэта не геаграфічнае становішча, а тое, што ёсць у чалавеку, калі ты кіруешся толькі ўласнымі інтарэсамі». В. Сегень таксама згадаў пра неабходнасць выкарыстання мовы ў царкоўных літургіях: «Я з зайздрасцю гляджу на рымска-каталіцкую царкву, якая прапагандуе беларускую мову, якая гучыць падчас імшы ў Беларусі. Гэта элемент падтрымання беларускасці. Царква ў Польшчы да гэтага не ідзе» і працытаваў класіка: мусім ведаць родную мову, каб не памерці.

**Лявон Тарасэвіч** дадаў у канцы першай панэльнай дыскусіі, у якой згадваўся сялянскі радавод беларусаў: «Калі мужык не ведае гісторыі, ён ніколі не будзе мець нацыянальнай свядомасці». І нагадаў, што беларусы ўсё яшчэ знаходзяцца на этапе адбудоўвання сваёй эліты: «Трэба даць Богу шанец. Трэба пачакаць».

**ВЫСПА НАРМАЛЬНАСЦІ — БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА**

У панэлі пад лозунгам «Літаратура» прынялі ўдзел Данута Завадзкая з Інстытута польскай філалогіі Беластоцкага ўніверсітэта, Міхал Андрасюк (народжаны ў Гайнаўцы, жыхар Войнаўкі) — пісьменнік, журналіст, публіцыст, які піша па-польску і па-беларуску, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага, намінант да прэстыжнай літаратурнай узнагароды Ежы Гедройца, і Ігар Бабкоў (родам з Гомеля) — паэт, празаік, публіцыст, філосаф, перакладчык. **Ігар Бабкоў** адзначыў, што многія з тых, хто прыязджае ў Беларусь, расчараваны, бо аказваецца, што ў кантакце ўдараюцца з дзеючымі беларускімі паўсядзённымі рэальнымі стэрэатыпамі пра функцыянаванне гэтай краіны па-за яе межамі. Гэта датычыцца таксама і сучаснай беларускай літаратуры, якая ў сваёй найважнейшай тэндэнцыі «ўзнікае без удзелу дзяржавы і нават пры яе апазіцыі». Беларуская літаратура (асабліва тая, што створана на беларускай мове, здамінаванай дзякуючы ўладам рускай) — гэта не проста забава, яна выкарыстоўваецца не толькі для баўлення вольнага часу, але і патрыятычнага абавязку. Беларуская літаратура — зона свабоды. Гэта прытулак усіх тых, каго не разумеюць з-за яго прагі свабоды.

І. Бабкоў даказваў, што паколькі беларуская мова для большасці беларусаў вывучаная і не вынесеная з дому, становіцца яна полем для лінгвістычных эксперыментаў, дзякуючы якім ствараюцца новыя моўныя каштоўнасці.

**Данута Завадзкая** заўважыла: «Гэта заўсёды так, што цікавая літаратура існуе на перыферыі, таму што там ёсць свабода, там можна па-мастацку больш, больш разнастайна дзеяць». Адзначыла, што папулярная беларуская літаратура «спрытна выкарыстаная можа служыць для распаўсюджвання розных ідэй, у тым ліку датычных нацыянальнасці», і можа быць «медыумам для артыкуляцыі памяці мінулага».

У гэтым кантэксце ўдзельнікі дыскусіі некалькі разоў узгадвалі кнігі Кацярыны Бонды і Ігната Карповіча. На думку Д. Завадзкай, «добра маецца, яна даследуецца, вывучаецца, ацэньваецца і ўспрымаецца

чытайце ☞ 10

# Бітва пад Оршай
## і рэканструкцыя пад Супраслю




Анонсы ў лакальных СМІ многа абяцалі: «Будуць вайсковы парад і рэканструкцыі. Так адсвяткуюць 505 гадавіну бітвы пад Оршай». Вось так пачаліся Дні спадчыны Рэчы Паспалітай у Супраслі. Таму шкада было не пакарыстацца магчымасцю адсвяткаваць Дні беларускай вайсковай славы, ну, не пад Оршай, але пад Супраслю. Тым больш, што новая дарога Беласток — Супрасль дазваляе за 20 хвілін апынуцца ў гэтай гістарычнай мясціне.

### ПЕРАМОГА НАД МАСКОЎСКАЙ ЭКСПАНСІЯЙ

Пад Оршай войска Рэчы Паспалітай атрымала бліскучую перамогу над маскоўскімі палкамі. Менавіта 8 верасня споўнілася 505 гадоў з часу пераломнай падзеі ў гісторыі Беларусі — Аршанскай бітвы. Тут войска Вялікага Княства Літоўскага пад камандаваннем гетмана Канстанціна Астрожскага спыніла маскоўскую экспансію. Гісторыкі лічаць Аршанскую бітву 1514 года адной з найвялікшых перамог у гісторыі ВКЛ. Гетман Астрожскі з мінімальнымі стратамі разбіў двойчы мацнейшую армію Васіля III і адбіў амаль усю Смаленскую зямлю. Некалькі гадоў пазней нязнаным аўтарам была намалявана карціна «Аршанская бітва 1514». У камуністычны перыяд гістарыяграфія выцесніла Аршанскую бітву з памяці палякаў. Гісторыя не адпавядала міфу пра «братэрства» з рускім народам.

Калі гаварыць пра Беларусь, сёння надалей людзі збіраюцца на Крапівенскім полі. Сёлета з 7 па 8 верасня прайшла імпрэза «Аршанская бітва — 2019» у гонар гэтых падзей. Як паведамляў карэспандэнт Беларускага Радыё Рацыя Кастусь Багушэвіч, каля двух дзясяткаў чалавек правялі ноч з 7 на 8 верасня на Крапівенскім полі — месцы славутай перамогі Вялікага Княства напярэдадні Дня беларускай вайсковай славы. «Удзельнікі слухалі музыку, дэкламавалі вершы і выступалі на гістарычныя тэмы. Таксама госці фестывалю ўшанавалі хвілінай маўчання ўсіх ваяроў Вялікага Княства, якія змагаліся ў 1514 годзе ў бітве пад Оршай».

### РЭКАНСТРУКЦЫЯ БЕЗ ВОРАГАЎ І СЯБРОЎ

Мерапрыемства ў Супраслі, прымеркаванае да 505 гадавіны Аршанскай бітвы, пачаў парад з-пад касцёла ў бок супрасльскіх бульвараў. За мясцовым аркестрам, які іграў патрыятычныя польскія песні, ішлі Ян III Сабескі і яго гусары на канях. Гэта былі энтузіясты гісторыі з беластоцкай групы рэканструктараў імя Харугвы Стэфана Чарнецкага.

— Конныя паказы, якія сёння можна было паглядзець, гэта гады працы, — адзначыў рэканструктар Пятро Барушко. — Хлопцы, якія ездзяць на конях, чатыры разы ў тыдні трэніруюць. Трэнінг сапраўды патрабуе шмат часу і цярплівасці, але перш за ўсё гэта трэба любіць.

І сапраўды конны паказ гусараў зрабіў вялікае ўражанне на гледачах. Дзецям падабаліся коні і гусары, што было чуваць па рэакцыях. Адзін з бацькоў прызнаўся, што паколькі зараз у школах толькі дзве гадзіны гісторыі ў тыдні, трэба ратавацца вось такога тыпу гістарычнымі мерапрыемствамі. Шкада, што ў гэтым выпадку моцна аднабаковым. Гэтая нарацыя таксама б'е з выстаўкі «Obok Orła znak Pogoni», якая адкрылася ў чэрвені ў рамках Дзён Супраслі і была названа «wystawą kresową».

— Калі гаворым пра гэтае мерапрыемства, варта адзначыць, што тут з Вялікага Княства Літоўскага нічога няма, — сказаў гісторык Славамір Іванюк, які з сям'ёй пабываў на рэканструкцыі, — не гаворачы пра русінаў, нашых продкаў беларусаў. Калі глянем на выстаўку там таксама паказаны толькі польскі пункт гледжання. Няшмат пра само праваслаўе, якое яшчэ да 1596 года было самым вялікім веравызнаннем у Вялікім Княстве Літоўскім.



Здаецца, што крышку збянтэжанымі былі і самі рэканструктары.

— Гэта павінна адбывацца на полі бою, пад Оршай, — сказаў Лешак Кубаля з Кампутовай харугвы Стэфана Чарнецкага. — Аднак нават сам факт, што тут узгадалі пра Оршу ці тыя сутычкі, якія мы паказалі і якія сапраўды маглі адбыцца на полі бою, вельмі важныя для гледачоў. Так мне здаецца.

Паколькі плакаты, якія анансавалі рэканструкцыю «Аршанскай бітвы» віселі таксама на будках з марожаным, можа сапраўды мерапрыемства пад Супраслю будзе штуршком, каб сабе пачытаць пра гэтую падзею ў іншых крыніцах, якія ўлічваюць уклад беларусаў у перамогу пад Оршай.

Дні спадчыны Рэчы Паспалітай у Супраслі — двухдзённае мерапрыемства. 8 верасня было прысвечанае 505 гадавіне Аршанскай бітвы, а 14 верасня Супрасль запрашае фанатаў фільма «U Pana Boga w ogródku» на сустрэчу з акцёрамі.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**







# З беларускімі студэнтамі пра беларускасць

Прыехалі з Мінска, Берасця, Пружан, Баранавіч і іншых гарадоў Беларусі. Тое, што іх аб'ядноўвае, гэта Задзіночанне беларускіх студэнтаў, якое для беларускай моладзі разам з Беларускім домам у Варшаве сарганізавала адукацыйны візіт „Паспяховыя практыкі адвакацыі і публічных кампаній у Польшчы: студэнцтва і моладзь". Цягам чатырох дзён з 18 да 21 жніўня яны паспелі наведаць Беластоцкі навукова-тэхналагічны парк, гарадскі каворкінг «Centroom», Падляшскі ваяводскі цэнтр занятасці, рэдакцыю Радыё Рацыя, а таксама пазнаёміцца і даведацца пра досвед мясцовай моладзі ад прадстаўнікоў студэнцкага самакіравання беластоцкіх вышэйшых навучальных устаноў, еўрапейскага моладзевага парламента і іншых моладзевых арганізацый.






Сябры Задзіночання беларускіх студэнтаў у панядзелак 19 жніўня сустрэліся з прадстаўнікамі Незалежнага аб'яднання студэнтаў у Беластоку. Афіцыйная сустрэча адбылася на тэрыторыі аддзела інфарматыкі Політэхнічнага інстытута, у час якой прадстаўнікі абедзвюх арганізацый расказалі пра сваю структуру, гісторыю і дзейнасць.

— Мы — нацыянальная, незалежная студэнцкая арганізацыя, — апавядае Даніла Лаўрэцкі, чалец Рады ЗБС. — Нашы задачы гэта абарона правоў і інтарэсаў студэнтаў, павышэнне якасці адукацыі і папулярызацыя беларускай мовы ды культуры. Задзіночанне ўзнікла як антыкамуністычны рух 1980-х гадоў, таму мы ў гістарычным плане падобныя на Незалежнае аб'яднанне студэнтаў у Польшчы. Мы, таксама як і вы, рэалізуем шмат праектаў.

Гэта праўда — зараз кожны можа знайсці тое, што цікава менавіта яму. Можна далучыцца да Акадэміі студэнцкага лідарства, якая працягваецца тры месяцы, у час якіх інтэнсіўна вочна і анлайн навучаюцца актывісты грамадзянскай супольнасці, да Школы журналістыкі ад „Студэнцкай думкі" — адной з першых газет студэнтаў Беларусі ды да Моладзевых дэбатаў „ДысКут" па важных агульнаграмадскіх тэмах з прадстаўленнем усіх процілеглых бакоў і пазіцый, і да шмат іншых праектаў.

Потым у нас была менш афіцыйная сустрэча і мы мацавалі сяброўства паміж дзвюма краінамі. Амаль кожная асоба, з якой я размаўляла гэтага вечара, задала мне пытанне: „Адкуль ты так прыгожа размаўляеш на беларускай мове?". Ім было дзіўна, што ў Беларусі не ўсе размаўляюць па-беларуску, а толькі што выехалі за мяжу і яе пачулі.

— Калі ўбачыш і сустрэнеш беларуса ці беларуску ў іншай краіне, то першае, што хочацца зрабіць, — кажа Саша Кузьміч, адна з галоўных арганізатарак выезду, — гэта крыкнуць „Жыве Беларусь!". Гэта так цёпла ў сэрцы, таму што з дзяцінства ўсіх прывучаюць, што Беларусь гэта маленькая краіна.

— Так здаецца, што беларусы гэта маленькі народ, але іх можна сустрэць у шматлікіх месцах, — працягвае Даніла. — Я часта ўспамінаю з'езд у Эстоніі саюза, які аб'ядноўвае студэнцкія арганізацыі Еўропы. Там найбольш прадстаўленай з усіх этнасаў была беларуская дыяспара, таму што дзяўчына з Эстоніі была беларускай, хлопец з Польшчы быў з Беларусі, быў літвін, які навучаецца ў беларускім універсітэце, быў я і яшчэ мая сяброўка. Гэта пяць асоб — больш чым немцаў, чым французаў ці швper.

Маючы магчымасць правесці час са студэнтамі з Беларусі, я запытала ў іх, якая цяпер сітуацыя ў іх краіне, як маладыя асобы ставяцца да беларускай мовы і ў якую старану ідзе беларуская культура. Яны з вялікай ахвотай адказвалі на ўсе мае пытанні і былі ўзрушаны тым, што хтосьці па-сапраўднаму цікавіцца, што адбываецца ў іх народзе.

— Зараз беларуская мова распаўсюджана ў вёсках, а ў гарадах яе ведае толькі моладзь. Па-беларуску ў штодзённым жыцці размаўляе малы адсотак гэтых асоб, але гэта па такой прычыне, што іхнія бацькі не ведаюць мовы, — расказвае далей Даніла. — На жаль, ёсць таксама адсотак маладых людзей, якія ставяцца да беларускай мовы як да чагосьці страшнага, што не павінна існаваць толькі таму, што яны думаюць, што яе ніхто не разумее. Але гэта сапраўды малы адсотак.

— Я лічу, што гэта больш звязана з нейкімі палітычнымі рухамі, — дадае Ліза Пракопчык з ЗБС. — Калі чалавек з дзяцінства расце ў дрэнным асяроддзі, то нічога добрага пра беларускі дом ён можа і не думаць.

— А калі ідзе пра навучанне беларускай мове, — працягвае Даніла, — справа ў тым, што большасць студэнтаў, амаль 60 ці 70 адсоткаў, навучалася ў школе па-руску, а навука беларускай мове распаўсюджана толькі ў вясковых школах. У гарадах працуюць толькі 3 можа 4 беларускамоўныя школы. Але, што падбудоўвае, існуюць такія групкі як наша ды Таварыства беларускай мовы на розных факультэтах, якія намагаюцца неяк падтрымліваць мову.

— Гэта праўда, што ў нас ёсць проста крытычна маленькая колькасць людзей, якія сапраўды размаўляюць па-беларуску з дзяцінства, — пацвярджае Саша. — Хаця зараз ёсць нейкая пазітыўная тэндэнцыя, што людзі змагаюцца за беларускамоўныя садкі і за беларускамоўныя класы ў школах. Можа быць раней такое было, але зараз гэта стала неяк больш заўважна. Самае ўсцешлівае, што беларуская мова становіцца моднай. Гэта бачым на прыкладзе музыкі — «НавіБэнд» выкарысталі беларускую мову на Еўрабачанні і ў выніку сталі больш папулярнымі. І трэба прызнаць, што яны хутчэй наступства чым прычына папулярызацыі нашай мовы, таму што раней шмат гуртоў у Беларусі спявала па-беларуску. Я думаю, што найбольш папулярны з іх сярод маладых людзей гэта «Нізкіх».

Беларускія студэнты вельмі цікавіліся, як жывецца ў Польшчы, таму што цяперашняя Польшча падаецца ім такой, якой Беларусь будзе праз 5-10 гадоў, калі ў ёй усё будзе добра. Яны пыталі пра навуку беларускай мове ў польскіх школах, пра адсотак дзяцей, якія ведаюць іх родную мову ды ці ў школах існуюць беларускія класы. Думаю, што адным з важнейшых было пытанне пра сцяг, які вісіць у класах, дзе навучаецца беларуская мова. Якія яны былі гордыя, калі я сказала, што бел-чырвона-белы!

— У Беларусі, мне здаецца, амаль у кожнага маладога чалавека ёсць бел-чырвона-белы сцяг. У кожнага свядомага маладога чалавека, але яны проста яго не паказваюць, — апавядае Саша. — Што да чырвона-зялёнага, ён падаецца мне настолькі штучным, што ніхто да яго не адчувае сапраўднай эмацыйнай прывязанасці. Яго падымаюць спартсмены, спартсменкі і г.д., але гэта бел-чырвона-белы сцяг, Пагоня і беларуская мова ствараюць незалежную Беларусь.

Трэба сказаць, што мы прагаварылі ўвесь вечар. І самае найважнейшае — мы пра беларускія справы гаварылі па-беларуску. Гэта тым больш узрушае, калі ты ў час студыяў больш карыстаешся польскай мовай, а трапілася нагода пагаварыць з маладымі людзьмі на роднай мове, якой для абедзвюх старон з'яўляецца беларуская. Гэты дзень я астаўлю ў памяці на доўгі час як шчыры, цёплы і поўны сяброўскай атмасферы. Хацелася б больш такіх вечароў. Можа таксама таму, што нам да шчасця не былі патрэбны смартфоны. Цяпер гэта вялікая праблема. Як заўважыла Саша, мы гаварылі, а мае сяброўкі з Незалежнага аб'яднання студэнтаў сядзелі з тэлефонамі ў руках. Не трэба было ведаць беларускай мовы, каб пагаварыць з беларускімі студэнтамі — былі асобы, якія карысталіся англійскай, украінскай, рускай ці нямецкай мовамі. Трэба было толькі хацець адазвацца.

На канец перадаю цёплыя словы ад маіх размоўцаў на тэму таго, хто мы і як гэта ўспрымаць.

— Зараз у XXI стагоддзі трэба як мага больш захоўваць свае карані. Асабліва беларусам, якія, на жаль, маглі растварыцца пад націскам русіфікацыі ці паланізацыі, — кажа Даніла.

— Я думаю, што нашы нацыянальныя карані — гэта вельмі вялікая частка нашай ідэнтычнасці, — расказвае Саша. — Беларуская гісторыя нас вучыць, што можна застацца краінай, можна не згубіць нацыянальны гонар, калі ўсё супраць цябе, калі цябе рэжуць, калі прыцiскаюць. Ужо чаго толькі і не было на беларускай зямлі, а нашымі продкамі былі людзі, якія не зламаліся і ўсё ж такі захавалі для нас беларускасць.

— А я таксама заклікаю ўсіх гаварыць на беларускай мове, не саромецца гэтага і часцей прыязджаць у Беларусь! — запрашае ўсіх Ліза.

Маю надзею, што пачнецца супрацоўніцтва паміж арганізацыямі дзвюх краін і мы будзем часцей сустракацца, а ў маёй галаве колькасць цудоўных успамінаў будзе толькі расці.

Тэкст і фота **Наталля ВАСЬКО**

## Кузаўскі ўспамін (2)

Гісторыя Кузавы непарыўна звязана з чыгуначнай Чаромхай ды рэчкай Нурэц, якая бярэ пачатак з дрыгвяных балот з-за Ставішчаў з-пад беларускай мяжы. Яго пачатак у нічым не напамінае рэчку адно ручаёк, які касякамі ўецца праз шырокую паласу ставіскіх сенажацей і ўрочышча Ажарова каля Чаромхі-Станцы. Гэтае апошняе належала кузаўскім гаспадарам.

На ўчастку Сямёна Качука знаходзіўся садок са смачнымі яблыкамі. Памятаю, як у падлеткавым узросце забіраліся мы грамадкай за садавіной. У садку гаспадар паставіў будан, у якім скрываўся ад дажджу. Часам у летні час засядаў у ім як вартаўнік і пільнаваў фруктаў перад зладзеямі.

На Ажарове было ўраджайнае поле, расла буйная трава, а палеткі з агароднінай давалі багаты плён. Рэчка на Ажарове пашыралася і вадзілася ў ёй шмат рыбы. Асаблівасцю былі шчупакі. Паколькі рэчышча было не надта шырокае і вада чыстая, дык шчупакоў лавілі на «пятлю» і забівалі прыстасаванымі для гэтага «осцямі».

Насупраць вадакачкі знаходзіўся стаў, на якім збудавалі запору для запруджвання вады. Адгэтуль бралі ваду для паравозаў. У ставе падлеткі купаліся, а рыбакі збіраліся на рыбалку. У сажалцы вазіліся шчупакі, акуні, ментузы ды плоткі. Стаў акружалі раскідзістыя вольхі. Непадалёк праходзіла дарога са станцыі ў Кузаву. На рэчцы быў драўляны мосцік. У час веснавога разводдзя рэчка выходзіла з берагоў і мосцік закрывала вада. Тады кузаўцы, якія жылі на пачатку сяла, у тым ліку і мы, вымушаны былі дабірацца на станцыю ўкругавую «рэгай» (грэбляй на дарозе Пагулянка — Чаромха побач царквы).

Пры брэсцкім пуці, які праходзіў за вёскай перад віядукам Чаромха — Гайнаўка, знаходзілася казарма — мураваны дом з чырвонай цэглы збудаваны пры царскім парадку. У пасляваенны час брэсцкі пуць і станцыйныя пероны разабралі. Адна толькі назва «брэсцкі пуць» засталася. Казарма даўней служыла для вартаўнікоў аховы чыгункі. Пазней кватаравалі ў ёй чыгуначныя пенсіянеры — Сцяпан Маркевіч з жонкаю Кацярынай і Грыша Рэпка (мой дваюрадны брат), вядомы ў наваколлі музыкант. З казармай межаваў «труйконт» — пункт абарочвання паравозаў. За паўкіламетра далей знаходзілася другая казарма для вартаўніка аховы віядука. У гэтай пражываў Ян Смаларук з жонкаю і сынамі.

Рэчка Нурэц дугою акружала Кузаву і крутымі паваротамі звівалася на паўночны захад. Балотныя берагі зарасталі алешына, кусты чорнай і жоўтай парэчкі ды малін. Паміж рэчкай і брэсцкім пуцём цягнулася пасяўное поле і паша. Урочышча называлі «За гаём». З вугальным складам межаваў «Поплавець». На гэтых урочышчах кузаўцам пасвілі жывёлу. Рэчка Нурэц не была глыбокая, але шырокая. Затым багатая была ў рыбу і ... ракаў. Але аб гэтым іншым разам.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі


## Як палюбіць лес

— А я ў лес не пайду, ваўкоў баюся! — гаварыла заўсёды Юлька. Дзяўчынка жыве пад лесам, часта на яе панадворак забягаюць сарны на яблыкі. Усе цешацца, здымаюць лясных жыхароў і фоткі ставяць на фейсбук. Але пайсці ў сапраўдны лес, паназіраць за раслінамі і звярынай — гэта ж... страшна!

— Там адны вужы і кляшчы, — запіралася дзяўчынка, — і ваўкі з дзікамі!

Нядаўна яна атрымала ў падарунку маляванку пра лес. Размалявала дрэвы, расліны і грыбы, ды пазнала іх назвы. Маляванкі паказаліся магічнымі, яны неяк непрыметна адагналі чорны страх перад лесам. Зараз у час шпацыраў Юля першая прыкмячае раслінкі і называе іх імёны. Ведае як выглядае папараць, як хвошч, а як дзікі маліннік. Ведае ядомыя баравікі і лісічкі ды атрутныя, хоць прыгожыя, мухаморы. Умее адрозніць елку ад сасны і бярозу ад дуба. Зараз мы ходзім у лес на арэхі, што як ніколі ўрадзілі сёлета ў нашым лесе. Юлька кажа, каб не атрасаць усіх галінак арэшніку:

— Трэба пакінуць для вавёрак, — кажа дзяўчынка, — і для вавёрчыных дзетак на зімку.

Мы таксама прапануем вам размалявацьлясную маляванку аўтарства мінскай мастачкі Алены Шалімы з надзеяй, што заахвоціць вас пайсці на прагулку ў свой лес.

**ЗОРКА**

## Рэчанька

З маладых лет
я з рэчкай зжыўся.
Поўныя берагі чыстай вады
Заўсёды прыцягалі мяне сюды.
У вадзе як у люстры адбіваўся
І так у ёй моцна закахаўся.
Многа лет з сабой дружылі,
Часта з сабой гаварылі.
Аж прыйшла такая спёка,
Хмары скрыліся далёка.
Людзі дажджу выглядаюць,
Травы, кветкі ўсыхаюць.
Як убачыў я пустыя берагі,
Слёзы самі з вачэй пацяклі.
На сэрцы вельмі цяжка стала:
Дзе ж ты, рэчанька, прапала?
Рэчка-рэчанька мая,
Дзе ж падзелася твая вада?
Буду цябе я выглядаць
І заўсёды ўспамінаць.

Кастусь ЦЕЛУШЭЦКІ

## УВАГА КОНКУРС! № 37-19

**Ці можа страўс назваць сябе птушкай?**

Разгадайце загадку-пытанне з жартам. Адказ можа быць розны, аднак дасціпны і на тэму. Рашэнне загадкі дашліце ў „Зорку" да 29 верасня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 33: ластаўка. Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Неўзабаве слаўны юбілей!

На Сустрэчы «Зоркі» ўсё часцей прыязджаюць дзеці першых удзельнікаў. І гэта наш гонар і шчасце. Ніўскі праект з удзелам журналістаў, настаўнікаў і творчага асяроддзя дзейнічае ўжо чвэрць стагоддзя і меў ён 33 выпускі.

Менавіта ў 2020 годзе мы будзем адзначаць 25-годдзе Сустрэч «Зоркі».

З гэтай нагоды мы прыдумалі конкурсы і мерапрыемствы ў школах і асяроддзях, якія нясуць падтрымку беларускаму слову і чытацкай культуры. Пакажам, які ў нас прыгожы плён, паслядоўнасці, размалюем каляровыя крыжы...

Вось, некаторыя праекты на стала ўвайшлі ўжо ў народ. На днях нам падарылі сшытак для ўрокаў рэлігіі. На вокладцы каляровы крыж, які размалявалі дзеткі ў Быдгашчы.

Сучасныя вучні думаюць, што такія крыжы былі ў нас заўсёды...

Гэта не так! Першы крыж узнік у 1995 годзе ды размалявалі яго карэспандэнты «Зоркі», якія з’ехаліся з усяго Падляшша ў Меляшкі. Усё гэта аднатавала «Ніва» ад 10 верасня 1995 года:

25 жніўня 1995 г. распачалася ў Меляшах незвычайная сустрэча. У гэтую маляўнічую беларускую вёску (8 км ад Гарадка) прыехалі дзеці з Гукавіч, Крывой, Бельска, Чыжоў, Вілюкоў, Старыны, Падрэчан і Гарадка. Усе яны — карэспандэнты «Зоркі». Мастацкі пленэр, спалучаны з выстаўленнем праваслаўнага крыжа, сарганізавалі Ганна Кандрацюк — рэдактар «Зоркі» і наш славуты мастак Лёнік Тарасэвіч. Усе (каля 30 асоб) спачатку сустрэліся ў Гарадку і наведалі мясцовую царкву...

Цытаваныя словы пісалі карэспандэнты «Зоркі», у тым ліку Міхась Сцепанюк, сёння вядомы журналіст Радыё Беласток. Крыж таксама не з’явіўся выпадкова, паколькі праект прыдумаў наш сябра, сусветнай вядомасці мастак Лявон Тарасэвіч. Першыя выпускі нашых майстар-класаў спалучаліся з размалёўкай крыжа. Ажыццяўляць новы праект не было лёгка. На дарозе было шмат перашкод, незразумення, трэба было раздабыць сродкі, пачастунак і апеку для дзяцей. Кожны даваў ад сябе што мог. Вось у тых Меляшках людзі прынялі дзяцей пад свой дах, кармілі, бавілі. Яны, простыя людзі, аказалі вялікую пашану і любоў да «Нівы», да беларускага слова і традыцыі.



*Мялешкі 1995 г. Фота Ганны Кандрацюк*




Рэдакцыя «Зоркі» ад пачатку вучыла ствараць допісы ў газету, папулярызавала формы журналістыкі, вучыла працы ў творчым калектыве і перш за ўсё назіраць жыццё і размаўляць з людзьмі. Пра гэта пішуць ужо самі ўдзельнікі першых «Сустрэч»:

Пабыўка ў Меляшках выклікала ў нас зацікаўленне самой назвай вёскі. Мы пайшлі ў народ. На жаль, спатыкалі толькі прыезджых, то родам з Коматаўцаў, то з Веек. Бабуля Люба Лавіцкая (95 гадоў) раскрыла перад намі тайны назвы вёскі. Некалі заснавальнік і першы жыхар селішча зваўся Мялешка. Пры нагодзе бабуля Люба расказала крыху гісторыі вёскі. У час I сусветнай вайны ўсе жыхары былі ў бежанстве ў Расеі. Бабуля Люба даехала ажно за Іркуцк. Прыйшлося пачуць цікавую беларускую казку і загадкі:

* Ішла пані ўначы і згубіла ключы, месяц бачыў, не падняў, сонца ішло падняло. (раса)

Сёння допісы дзяцей і моладзі — сапраўдная «раса» ў Ніве. Асабліва ў час канікул, калі публікуем плён чарговых майстар-класаў. Да нас прыязджаюць журналісты — нашы выпускнікі. Яны гавораць пра значэнне майстар-класаў з перспектывы гадоў.

Праект Сустрэчы «Зоркі» ўнікальны і з-за таго, што ён дэталёва апісаны самімі ўдзельнікамі і апублікаваны на старонках «Нівы». Мы стварылі таксама электронны архіў з допісамі і здымкамі «e-zorka.pl» ды старонку ў фейсбуку «Сустрэчы Зоркі». Там цэлы беларускі свет і ўсе нашы дзеячы. Чытайце і будзьце з намі!

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Польска-беларуская крыжаванка № 37-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 33-2019:**

Муха, вёска, карункі, гарох, ар, гадалка, сум, артыкул, ха. Кагор, хмара, родны, лён, скок, які, Ас, ух, брама.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам’ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Odłamek, Pośpiech, Wiek, Trąba słonia, Kompot, Szemranie, Tran, Szpikulec, Tlen, Łat, Amator, Koszt, Ob, My, Hełm, Piórnik, Wiek, Łyka, Bór, Borowik, Tak, Wieloryb, Taniec, Lek, Morze



# Белфэст у Елянцы

Яшчэ перад выездам 31 жніўня ў Елянку на белфэст «І там жывуць людзі» успомніў я сваю пабыўку ў гэтай вёсцы пятнаццаць гадоў таму. Заехаў я тады ў Елянку на наступны дзень пасля буры, якая знішчыла шмат жылых будынкаў, хлявоў і клунь. Убачыў я тады дамы і халодныя будынкі без дахаў. Каля вёскі ляжалі паламаныя дрэвы. Найбольш знішчэння было ў сядзібах з парнымі нумарамі. У вялікім смутку жыхары Елянкі з дапамогай сямейнікаў і пажарнікаў прыкрывалі фольгай перш за ўсё дамы, каб дождж не знішчыў маёмасці. Пасля не раз праязджаў я праз Елянку і бачыў як вёска аднавілася, стала разнаколернай, паколькі дамы былі накрыты чырвонай, сіняй, зялёнай і іншых колераў бляхай. Калі грунтоўна мадэрнізавалі ваяводскую дарогу з Гайнаўкі ў напрамку Кляшчэляў, праклалі яе па-за Елянкай, і з яе бачна, што ў вёсцы не ўсе знішчаныя хлявы і клуні адрамантаваны. Цяпер каля паловы хат у вёсцы пустуе, а некаторыя найстарэйшыя жыхары вёскі з фінансавай дапамогай на куплю бляхі адрамантавалі толькі хаты, паколькі хлявы і клуні былі ім ужо непатрэбныя.



— Сёння Музей і асяродак беларускай культуры арганізуе 69-ы беларускі фэст з цыкла «І там жывуць людзі», а завершым наш музычны сезон 70-м белфэстам каля вадасховішча ў Рэпчычах, — патлумачыў дырэктар Белмузея ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк. — Ідэя нашых фэстаў застаецца той самай. Выходзім з прапановай паслухаць у адборным выкананні нашы беларускія песні і беларускую музыку жыхарам сельскай мясцовасці, дзе даўно не гасцявалі калектывы. Найчасцей гмінныя ўлады прапануюць, у якой вёсцы ладзіць нашы музычныя мерапрыемствы. Сёння цёпла, сонечна, вельмі добрыя ўмовы для мерапрыемства ў пленэры. Запрасілі мы калектывы, якія выконваюць беларускія песні і музыку на высокім узроўні. Традыцыйна прапануем купляць у нашай краме беларускія кніжкі і рукадзелле. Паказваем тут таксама фотавыставу аб нашых фэстах, пачынаючы з 2009 года.



Калектыў «Давід Шымчук бэнд» з Гайнаўкі

Белфэст пачаўся з выступу дзетак — спявачкі Олі Мілішэўскай з Гайнаўкі і мясцовага маладзенькага акардэаніста Яна Чмеля з Елянкі. Ролю канферансье выконвала дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Марыёля Герман-Петручук, якая распавядала пра выканаўцаў і дзейнасць Гайнаўскага белмузея. Удала заспявалі жанчыны, якія заснавалі вакальны калектыў пры Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных.

— Мы спяваем у калектыве з 2016 года, але толькі нядаўна назвалі яго «На шчасце». Выконваем перш за ўсё песні, якія ў нас спяваліся здаўна, — сказала член калектыву Міраслава Іванюк, дырэктар Гміннага асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Дубічах-Царкоўных. — Гайнаўскі белмузей з’яўляецца галоўным арганізатарам сённяшняга фэсту, а нашы гмінная ўправа і асяродак культуры — яго суарганізатарамі. Мы ўпарадкавалі пляцоўку і падрыхтавалі пачастунак.

Усе тры астатнія выступоўцы, беларускія калектывы «Метро» і «Давід Шымчук бэнд» з Гайнаўкі ды «Родны кут» з Нарвы запрэзентаваліся на высокім мастацкім узроўні і сумелі зацікавіць публіку.

— Я стараўся разварушыць публіку нашымі беларускімі песнямі і думаю, што мне крыху ўдалося гэта зрабіць, — заявіў кіраўнік калектыву «Метро» Данель Сакоўскі з Арэшкава.

— Змена назвы калектыву «Арт-Пронар» на «Родны кут» адбылася па прынцыпе змены прозвішча дзяўчыны, калі тая выходзіць замуж і прымае прозвішча мужа. Мы, вяртаючыся з Мінска, дзе шылі сабе беларускія касцюмы, пабачылі рэстаран «Родны кут», што натхніла нас прыняць гэты назоў для свайго калектыву, — патлумачыў лідар гурта «Родны кут» з Нарвы Ян Снарскі.

Аўтамабілі перад часткова адрамантаванай святліцай стаялі паабапал дарогі. Мясцовыя жанчыны, у галоўным пенсіянеркі, сядзелі на лавачках насупраць фэсту, а побач іх стаялі малодшыя асобы. Мужчыны стаялі каля плота, слухалі музыку і размаўлялі на розныя тэмы. Патлумачылі яны мне, што на лаўках, расстаўленых насупраць святліцы і сцэны, сядзелі ў асноўным прыезджыя, сярод якіх быў войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі. З мужчынамі перш за ўсё завязалася ў мяне размова наконт трагічных падзей у Елянцы пятнаццацігадовай даўнасці.

— Яшчэ намнога раней можа нават каля дзесяці разоў гарэлі ў нашай вёсцы хаты і гаспадарчыя будынкі. Мужчыны наперменку вартавалі начамі, пакі ўдалося выкрыць падпальніка. Аднак трагедыя, якая спасцігла нас пятнаццаць гадоў таму назад, была непараўнальна большай. Велізарныя бура і віхор знішчылі дамы і гаспадарчыя будынкі на панадворках з парнымі нумарамі. Намнога меншыя знішчэнні былі таксама з другога боку вуліцы, — распавёў Мікола Нікіцюк з Елянкі.

— Мне вельмі добра запомніўся гэты дзень. Вёска была знішчана 10 ліпеня 2004 года. Перад самым момантам трагедыі стала амаль бязветрана і раптоўна пачало зрываць дахі ў хатах і ламаць, нішчыць хлявы і клуні. Бура і віхор прайшлі хутка, а знішчэнні ад іх засталіся велізарныя. Трэба было неадкладна забяспечыць дамы ад дажджу. Пажарнікі-добраахвотнікі і прадстаўнікі іншых мундзірных службаў дапамагалі нам прыкрыць хаты і гаспадарчыя будынкі фольгай. Пазней рамантаваць будынкі дапамагалі нам перш за ўсё сямейнікі, гмінныя працаўнікі і валанцёры, — удакладніў жыхар Елянкі Міраслаў Нічыпарук.

— Вярнулі нам з дзяржаўнага бюджэту грошы за бляху на прыкрыццё дамоў, а перадаваліся яны праз гмінную ўправу. Прыкрывалі дамы бляхай найчасцей з дапамогай сямейнікаў, але трэба было наняць майстра, які кіраваў працай. У мяне ўсе будынкі былі застрахаванымі і я атрымаў кампенсацыю. Аднак гэтых сродкаў было замала на рамонтныя працы, — дабавіў Мікола Нікіцюк.

— Вецер ламаў шыфер на невялікія кусочкі і дзіравіў імі бляшаны дах і шалёўку на маім доме. Гэтага не было відаць здалёк, але з паддашка было відаць прадзіраўленую бляху. Былі ў мяне часткова знішчаны гаспадарчыя будынкі. Трэба было іх усе рамантаваць і мы рабілі гэта за свае сродкі. Тады яшчэ больш людзей жыло ў Елянцы і з іх дапамогай мы неяк справіліся. З гэтага часу наша вёска апусцела. Са звыш сарака дамоў амаль палова пустуе. Жыве ў нас усяго каля трыццаці чалавек, — распавёў солтыс Елянкі і гмінны радны Ян Чмель.

Солтысаў сын — адзіны вучань у вёсцы. Калі размова пераходзіць на гаспадаранне, паяўляецца нараканне на лясную звярыну і засуху.

— Калі я змалаціў ярыну, аказалася, што не сабраў у сярэднім нават і тоны з гектара. Сырадэлю на двух гектарах поля з’елі мне зубры, якія ходзяць каля нашай вёскі статкам з чатырнаццаці штук, а адзін зубр ходзіць адзінока. Ім перашкод няма. Ад дзікоў ахоўваемся расцягваючы дрот электрычнага пастуха вакол палеткаў бульбы, бо ў іншым выпадку перарыюць бульбу цалкам. Я гадаваў раней кароў, але зрокся, паколькі закрылі скупку малака ў нас, а пазней у Грабаўцы. Адзін гаспадар гадуе ў нас яшчэ дойных кароў, а іншы — мяснае быдла. Я ў мінулым гадаваў таксама коней, але пасля крадзяжу іх зрокся. Зараз гадую 88 авечак, але цяпер вельмі мала плацяць за воўну і мяса. Аднак паколькі ў нас землі вельмі дрэннай якасці, не вырошчваем збожжа на продаж, толькі кормім ім жывёлу, — расказваў солтыс Ян Чмель.

Войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі і дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных Міраслава Іванюк уручылі дыпломы і ўзнагароды пераможцам конкурсу на найлепш утрыманы панадворак у Дубіцкай гміне.

— Гмінная камісія перш за ўсё звяртала ўвагу на вяртанне да традыцыі падчас абсталявання панадворка і ўпрыгожвання дамоў. Аднак, зразумела, вялікае значэнне меў агульны выгляд і прыгожасць на панадворках, — патлумачыла дырэктар асяродка культуры Міраслава Іванюк і назвала пераможцаў. Першае месца занялі Марыя Нічыпарук з Вітава і Пётр Кірызюк з Руткі.

— Я 39 гадоў таму выйшла замуж у Вітава. Ад гэтага часу насаджваю розную расліннасць на панадворку. Захаваўся там стары сад з яблынямі і слівамі. Але насадзіла я многа аздобнай расліннасці і кветак, якія, на жаль, ужо адцвілі. Прыгожай расліннасцю абсадзіла я таксама крынічку з вадой, — расказала Марыя Нічыпарук, солтыс Вітава.

Паўліна Монах з Мясцовай групы дзейнасці «Белавежская пушча» ў Гайнаўцы на белфэсце расказвала пра магчымасць атрымання фінансавання на адкрыццё і развіццё гаспадарчай дзейнасці.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

Тэкст і фота
Міхала МІНЦЭВІЧА

# Памяці белавежскіх жыдоў

**У нядзелю, 11 жніўня г.г., у Белавежы адбылося мерапрыемства ўшанавання 78-й гадавіны забойства гітлераўскімі акупантамі 486 жыхароў Белавежы і наваколля ды адкрыццё помніка ў гонар памардаваных жыдоў.**



Новы помнік

Урачыстасць пачалася ў 12 гадзін дня ў кар'еры жвіроўні — месцы расправы. Знаходзяцца там каталіцкі і праваслаўны крыжы, на ўзгорку вялікая драўляная фігура арла, а ўнізе памятная табліца з эпітафіяй. З левага боку знаходзіцца новаўзведзены з каменных, сімвалізуючых мацэвы, валуноў помнік яўрэйскім ахвярам з надпісам: „Pamięci Żydów z Białowieży zamordowanych podczas Zagłady. W tym miejscu 10 sierpnia 1941 r. niemieccy okupanci rozstrzelali 77 chłopców i mężczyzn żydowskich z Białowieży w wieku 16-45 lat. Pozostałych żydowskich mężczyzn, kobiet i dzieci z Białowieży wywieźli do gett w Kobryniu i Prużanie. Deportowani do Kobrynia zostali zamordowani przez niemieckich okupantów w masowych egzekucjach w Bronej Górze oraz wokół Kobrynia w 1942 r. Deportowani do Prużany zostali wywiezieni w 1943 r. do niemieckiego nazistowskiego obozu zagłady Auschwitz-Birkenau".

Вядучы мерапрыемства прывітаў гасцей, у іх ліку і нашчадкаў белавежскіх жыдоў з Ізраіля і ЗША:

— Сабраліся мы сёння, каб паставіць чарговы шаг на шляху памяці белавежскіх жыдоў. Гэтая дарога пачалася ў 2014 годзе, калі Катажына Вінярска і найстарэйшыя жыхары Белавежы пачалі працаваць над вяртаннем памяці нашых суседзяў. Не сустрэліся б мы тут сёння, калі б не супольная праца многіх асоб і ўстаноў.

Катажына Вінярска:

— Я хачу падзякаваць усім, і Леху Навацкаму, які задумаў гэты помнік, дзякую таксама Форуму дыялогу ды Жыдоўскаму гістарычнаму інстытуту, якія падтрымалі фінансава гэты праект ды ўсім даравальнікам. Дзякую таксама арганізатарам сустрэчы белавежцаў з нашчадкамі мясцовых жыдоў.

Пасол Тамаш Цімашэвіч:

— Гэта вялікі гонар быць з вамі ў такую хвіліну, калі ўвекавечваем ахвяры Другой сусветнай вайны. Працуючы апошнія чатыры гады ў парламенцкай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей я меў нагоду наведваць многія падобныя месцы, дзе адбываліся жудасныя забойствы з рук нацыстаў. Польская гісторыя ўслана пакутамі польскіх жыдоў. Так, многія вашы сем'і загінулі. Прыемна бачыць вас, прыехаўшых у гэтае месца ўспомніць ахвяры з ліку вашых сем'яў. Дзякуем вам што прыехалі, бо не хапала нам вашай прысутнасці.

Старшыня белавежскай Гміннай рады Уладзімір Валкавыцкі:

— Ад імя Белавежскай гміны вітаю ўсіх сюды прыбылых. Асабліва горача вітаю нашчадкаў тых, якія страцілі жыццё ў гэтым месцы. Месцы страшным, асвячоным крывёй жыхароў гэтай зямлі, якімі былі таксама жыды. Ведаем пра іх з расказаў нашых продкаў або літаратуры. І жадаю ўсім нам, каб такое ніколі не паўтарылася.

Катажына Вінярска:

— Знаходзімся ў месцы, дзе ў 1941-1943 гадах нямецкія акупанты расстралялі 486 жыхароў Белавежы і навакольных мясцовасцей. Мардавалі тут беларусаў, палякаў, расейцаў, праваслаўных, каталікоў. Іх ад гадоў увекавечвае фігура арла і крыжы двух веравызнанняў. Аднак у гэтым месцы былі памардаваны таксама і жыдоўскія жыхары Белавежы, якія не былі ўвекавечаны ў ніводным месцы нашай мясцовасці. І гэта дзеля іх мы тут сёння сабраліся.



Катажына Вінярска (справа)

Экзекуцыю жыдоўскіх мужчын і хлапцоў у гэтым месцы, даўняй жвіроўні, папярэдзілі рэпрэсіі, якім падлягалі жыды ў іншых мясцовасцях Польшчы, якія пачаліся з моманту захопу Белавежы нямецкімі войскамі 27 чэрвеня 1941 года. Апісанні тых рэпрэсій знаходзяцца ў архівах і ў памяці людзей, якія запамяталі той час.

Як і ў іншых мясцовасцях, жыды мусілі насіць нашытую на вопратку Зорку Давіда, нельга ім было хадзіць па тратуарах, ускладвалі на іх кантрыбуцыі ў серабры, золаце, грошах і шкурах, сканфіскаваны быў ім жывы інвентар, сінагогу замянілі на склад, а яе змест быў публічна спалены. Жыды мусілі цяжка працаваць пры рамонце дарогі з Гайнаўкі ў Белавежу, нішчанай цяжкай вайсковай тэхнікай і пры пабудове дарогі з Белавежы ў Каменюкі. Жыхары Белавежы былі таксама сведкамі шматлікіх публічных здзекаў. Ад самага пачатку былі таксама расстрэлы. Жыдам загадвалі таксама закопваць памардаваных тут палякаў і беларусаў.

У ліпені 1941 года нямецкія ўлады рашылі прызначыць Белавежскую пушчу на паляўнічы абшар Трэцяга Рэйха, якога праўленне знаходзілася ў Белавежы і непасрэдна падлягала цэнтральным уладам у Берліне. Упаўнаважаным Германа Герынга, які да вайны чатырохкратна быў на паляваннях у Белавежы, быў надлоўчы Ульрых Шэрпінг.

З мэтай рэалізацыі гэтай задачы прадбачвалася цалкавітае высяленне насельніцтва навакольных вёсак. 23 ліпеня прыбыў у Белавежу 322 і батальён паліцыі. Дзеянні батальёна былі штодзённа запісваны ў дзённіку, які захаваўся ў архівах. З пушчанскіх вёсак выселены было 6446 асоб з 34 мясцовасцей, а вёскі спалілі.

1 жніўня немцы наладзілі ў Белавежы аблаву і экзекуцыю затрыманых ва ўрочышчы Белы Лясок каля Шарашова, на г.зв. жвіроўні Перарова — сёння ў Беларусі. У ліку 36 жыхароў Белавежы было пяцярых жыдоў.

Масавая экстэрмінацыя белавежскіх жыдоў пачалася 9 жніўня 1941 года. Сагналі іх у Палацавы парк, правялі селекцыю. Мужчын ва ўзросце 16-45 гадоў памясцілі ў зборным лагеры, апошніх эвакуіравалі ў Кобрын. Дакладна невядома, колькі жыдоў пражывала ў Белавежы да вайны; гаворыцца пра пяцьсот асоб.

Сёння, адкрываючы помнік прысвечаны экстэрмінацыі жыдоўскіх жыхароў Белавежы, сабраліся мы сюды дзеля ўсіх — тых нямногіх, што выжылі, і, галоўным чынам, дзеля тых, якіх памардавалі. Большасці з іх ніхто не развітаў і не аплакаў. Пра большасць з іх не мае хто аплакваць, бо ніхто не выжыў. Можам зрабіць гэта сёння мы ў 78-ю гадавіну экзекуцыі ў жвіроўні. Пара, пасля 78 гадоў, нанава памятаць пра тых, якія жылі ў Белавежы да вайны, гэтаксама як палякі і беларусы.

Людзі часта пытаюць мяне, ці я жыдоўка, а калі не, то чаму я гэтым займаюся; пытаюць мяне так палякі, як і жыды. Хацелася б, каб адказ на такое пытанне быў несумненны. Гісторыя белавежскіх жыдоў, гісторыя польскіх жыдоў — гэта не толькі жыдоўская гісторыя. Гэта гісторыя Белавежы, Польшчы. Гэта наша гісторыя, кожнага з нас, з цэлым яе добрым і дрэнным багажом. Чым больш яе ведаем і пра яе гаворым, тым больш мы ў сябе. Да таго ж Белавежа і Польшча не толькі нашы, яны супольныя. Я пераканана, што разнароднасць груп, якія стварылі яе цягам стагоддзяў і якія сёння тут пражываюць, адчуваюць сваю да яе прыналежнасць, якія разглядаюць яе як сваю, не пагражае ёй, але яе ўзбагачае. Гэтае месца, у якім адкрываем помнік белавежскім жыдам каля каталіцкага і праваслаўнага крыжоў ды польскага арла, можа быць таго сімвалам, калі зробім у нас на тое месца.

* * *

Перад сабранай публікай выступілі таксама і нашчадкі белавежскіх жыдоў, прыгадваючы сваіх блізкіх, якія тут жылі і загінулі. У мерапрыемстве прысутнічала каля двухсот асоб — арганізатары, жыхары Белавежы, запрошаныя госці ды нашчадкі белавежскіх жыдоў.

* * *

Быў прысутны Пётр Пухта, генеральны дырэктар з Фонду аховы жыдоўскай спадчыны з Варшавы (з 1 лютага 2011 года Фонд з'яўляецца ўладальнікам арлянскай сінагогі), які на мерапрыемства запрасіў арлянскага войта. Прадстаўнікі Фонду па запрашэнні арлянскага войта ў канцы чэрвеня наведалі Орлю, каб пабачыць будынак сінагогі ды паразмаўляць аб далейшым рамонце. У Белавежы я пачуў ад дырэктара Пухты, што Орлю хоча наведаць група жыдоў з замежжа. Хачу адзначыць, што гэта нешта новае, чаго дагэтуль не бывала. Першы шаг зрабіў новы войт пры маім і Марка Хмялеўскага заангажаванні. Сям'я Эдэльманаў, маіх знаёмых з Ізраіля, ахвяравалася выкупіць ад амерыканскіх жыдоў калекцыю невядомых фатаграфій арлянскіх жыдоў з міжваеннага перыяду.

3 ☞ працяг

як вельмі цікавая літаратура, створаная беларусамі Беластоцкага краю». Пасля Ігар Бабкоў дайшоў да высновы:

— Для сучаснай Беларусі са штучна вывучанай беларускай мовай, **Беласточчына**, з беларускай мовай і культурай у большай ступені «атрыманай у спадчыну» здаецца быць ідыліяй. Мы прыязджаем сюды і можам мець надзею, што наша беларуская мара стане рэальнасцю. Гэта такая выспа беларускай нармальнасці ў штучным, глабалізаваным свеце. Трэба ўвесці беластоцкі міф у беларускую культуру. Беларушчына таксама павінна быць уключана ў дамінуючыя тэндэнцыі.

**Міхал Андрасюк** заўважыў: «Я бачу дзве Беларусі: Рэспубліку Беларусь і літаратурную Рэспубліку Беларусь. Пачатак сучаснай Беларусі дала літаратура, а не ваенныя камандзіры і палітыкі. Менавіта ў літаратуры выжыла беларуская ідэя».

На трэцяй панэлі — пад лозунгам «**Культура**» — дыскутавалі Артур Клінаў — канцэптуальны мастак з Мінска — жывапісец, перформер, пісьменнік, фатограф, выдаўца часопіса «pARTisan», Аліна Ваўранюк — шматгадовая настаўніца беларускай мовы, аніматарка культуры, Андрэй Дурэйка — ураджэнец Гародні, мастак і мастацтвазнаўца, працуючы ў Дзюсельдорфе, і **Анатоль Вап** — былы шматгадовы дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны падляшскага самаўрада. **Артур Клінаў** быў упэўнены, што па насычанасці Мінск, калі гаворка ідзе пра мастацкае і культурнае жыццё — горад, які зараз можна параўнаць з Берлінам, але новыя ўстановы і мастацкія пачынанні былі магчымыя ў апошнія гады і цяпер дзякуючы не дзяржаўным, а прыватным фондам. **Андрэй Дурэйка** з жалем заявіў, што ў беларускім мастацкім свеце ёсць праблемы з мастацкімі ідэямі, якія ў якасці тавару могуць быць прадстаўлены і за межамі Беларусі. Засцярог: «Палітыка ў Беларусі, у тым ліку культурная, не мяняецца, а адукацыя ў сферы культуры ўвогуле. Такім чынам, маладыя мастакі ўжо некаторы час з'язджаюць з Беларусі. Мы знаходзімся ў той момант, калі многія беларускія мастакі маюць еўрапейскую адукацыю, а беларускі мастацкі свет увогуле інтэграваўся з Еўропай у апошнія гады».

**Аліна Ваўранюк** з горыччу гаварыла пра беларускі «падворак» на Беласточчыне і адстойванне тут беларушчыны: «Беларускіх настаўнікаў не цікавіць беларуская гісторыя ці культура. Чаму іх няма на нашых беларускіх мерапрыемствах? У нас шмат беларускіх інструктараў калектываў, якія атрымалі адукацыю ў Беларусі — яны спляжылі нашу тутэйшую культуру! Калі не будзе добрых настаўнікаў, г...но будзе!..»

**Анатоль Вап** дадаў за А. Ваўранюк: „На Падляшшы ніхто не цікавіцца выкладаннем беларускай гісторыі і культуры. Самі настаўнікі гэтым не зацікаўлены. (...) Але можам працягваць на ўзроўні самакіравання розныя супольныя культурныя праекты паміж Падляшшам, Беларуссю, Літвой».

**Лявон Тарасэвіч** не скрываў: «Гэта вялікая страта для Польшчы, што яна не выкарыстоўвае козыра, якім з'яўляецца беларушчына. Адсутнасць двухмоўных польска-беларускіх назваў (акрамя Арлянскай гміны) — гэта, перш за ўсё, польская страта. Ва ўсіх школах тут павінна быць беларуская мова — тады адзін аднаго не ненавідзелі б. Розныя людзі гаворыць пра Беларусь і бачаць у ёй розныя рэчы. Яны часта не адлюстроўваюць праўды, а мы тут хочам пагаварыць, якая ёсць сапраўдная рэчаіснасць беларускай культуры». Л. Тарасэвіч выказаўся за пабудову ўзаемных адносін, у тым ліку ў сферы культуры, на аснове **Ягелонскай ідэі**, гэта значыць супольнасці, пабудаванай на аснове шматлікіх культур, у шырокім сэнсе.

Сёлетні Трыялог суправаджала выстава Артура Клінава: «Салодкае саламянае жыццё 3» у Галерэі Крынкі. Прадстаўлены былі таксама незалежны беларуска-ўкраінскі тэатральны праект «**Гэтамы**» (рэжысёр Стас Жыркоў) — пра расчараванага жыццём пісьменніка з Мінска, які вярнуўся ў вёску на Палессе паводле нашумелай кнігі Андруся Горвата «Радзіво Прудок», і канцэрты **Лявона Вольскага** і беларускага гурта з Беласточчыны «**Прымакі**» — выканаўцаў з мастацкага пункту гледжання з двух полюсаў. На жаль, канцэрты не прыцягнулі крынчан, на што, мабыць, разлічвалі наследнікі Сакрата, які ведаў, як нялёгка трымацца свайго і выводзіць яго ў свет.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



## http://eliseev-law.by

Прафесія юрыста заўсёды лічылася паважнай і збольшага прэстыжнай. Звычайна юрыст — гэта сур'ёзны і спакойны чалавек, які ведае законы, а добры юрыст яшчэ і можа іх прымяніць з карысцю для свайго кліента, асабліва калі ходзіць пра адваката. Вядома, што закон як дышла — куды павернеш, туды і выйшла.

Так сталася, што ў беларускай краіне юрысты ў асноўным рускамоўныя. Сітуацыя зразумелая — калі ўсё справаводства і практычна ўсе законы пішуцца не на беларускай мове, то і патрэбы ў ёй у большасці народу не будзе. А юрыст, акрамя законаў, працуе з людзьмі і размаўляе з імі акурат на мове надрукаванага закона.

Праўда, у кожным правілы ёсць выключэнні. І беларускамоўныя юрысты ўсё ж сустракаюцца ў жыцці беларусаў. І не толькі сустракаюцца, але і маюць свой сайт у інтэрнэце, праз які даводзяць, што „юрыдычныя паслугі на любой з дзяржаўных моў — гэта лёгка".

Нагадаем, што ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская, але першую пачуць на вуліцах гарадоў вельмі складана. Разам з тым яе вельмі лёгка пачуць ад мінскага юрыста Сяргея Елісеева, які і прапануе свае паслугі на абедзвюх мовах.

Сайт беларускамоўнага знаўцы законаў знаходзіцца па адрасе **https://eliseev-law.by/**. Выглядае даволі прывабна — на сінім фоне побач з вышэйпададзеным слаганам размешчаны фотаздымак юрыста, які з усмешкай нібыта папраўляе свой гальштук. „Зарэкамендаваны буйнымі кампаніямі", „Дакументы на любой з дзяржаўных моў — лёгка!", „Эканомлю Ваш час і грошы", „Заўсёды на сувязі і гатовы вырашаць любыя пытанні" — там жа рэкламуе сябе Елісееў, які прадстаўляецца аўтарам больш за 120 матэрыялаў юрыдычнай накіраванасці, лектарам адукацыйных мерапрыемстваў, удзельнікам і пераможцам шматлікіх міжнародных юрыдычных канферэнцый. Чатыры гады таму ён быў узнагароджаны першай прэміяй спецыяльнага фонду беларускага прэзідэнта па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў. А цяперашні сямігадовы досвед працы „забяспечвае высокую якасць юрыдычных паслуг". Так усё гэта ці не так — можна толькі спраўдзіць на нейкай сваёй справе, але лепей не спраўджваць, бо як кажуць у народзе — хай не знае ваша хата ні ўрача, ні адваката.

Тыя ж, хто меў магчымасць супрацоўнічаць з Сяргеем Елісеевым, пакінулі пра яго толькі добрыя водгукі, праўда, пакуль усяго толькі два. „Прапрацаваўшы два гады з Сяргеем, я застаюся ў поўным захапленні ад яго выканаўчасці", — сцвярджае дырэктар фірмы „Будкурс" Святаслаў Курыленка. „Супрацоўнічаем з Сяргеем больш за тры гады. Якасць паслуг выдатная! Мы б жадалі, каб усе ў свеце працавалі так старанна і эфектыўна", — піша дырэктар SMM-агенцтва Riseup.by Дзяніс Напрушкін, раючы звяртацца да беларускамоўнага юрыста.

Сам жа Елісееў адзначае, што „гатовы адстойваць Вашы правы да пераможнага канца". „Давяраючы мне, Вы атрымліваеце надзейную абарону. Можаце быць упэўнены, што я зраблю ўсё, каб закон быў на Вашым баку", — запэўнівае юрыст, падкрэсліваючы, што „усе кліенты ведаюць, што іх пытанне будзе вырашана прафесійна і хутка!"

Дарэчы, на карысць таго, што Сяргей Елісееў неблагі юрыст, сведчаць яго выступы ў беларускай прэсе па тэме права. І яны — на беларускай мове.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

### Дата з Календара

## 135 гадоў з дня нараджэння

# Фабіяна Абрантовіча

Беларускі місіянер, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, педагог, доктар філасофіі, магістр тэалогіі Фабіян Абрантовіч нарадзіўся 14 верасня 1884 г. у засценку Верасковшчына Навагрудскага павета. Паходзіў з мяшчанскай сям'і беларусаў-католікоў Янкі і Юліі (з дому Кашыцаў) Абрантовічаў.

Фабіян скончыў Навагрудскую гарадскую трохкласную вучэльню. У красавіку 1902 г. вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі. А з восені таго ж года вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу. Пасля яе паступіў у Мітрапалітальную духоўную каталіцкую акадэмію. На трэцім курсе акадэміі быў пасвечаны ў святары. Выкладаў Закон Божы ў пецярбургскіх навучальных установах, потым быў законавучыцелем прыватнай мужчынскай гімназіі пры рымска-каталіцкім касцёле св. Кацярыны ў Пецярбургу.

У сакавіку 1912 г. Фабіян Абрантовіч атрымаў дазвол на выезд з Расійскай імперыі ў Бельгію. Працягваў вучобу ў каталіцкім універсітэце ў Лювене (1912-1914), дзе абараніў доктарскую дысертацыю па філасофіі. У лістах з Лювена адзначаў не толькі высокі ровень ведаў выкладчыкаў і прафесараў каталіцкага ўніверсітэта, але таксама і глыбіню, неардынарнасць навуковых праграм, асабліва па філасофіі.

Пасля вяртання з Бельгіі Абрантовіч быў прыняты на пасаду прафесара духоўнай каталіцкай семінарыі ў Петраградзе, дзе выкладаў філасофію, сацыялогію і спевы. Адначасна выконваў абавязкі законавучыцеля ў Петраградскай Канстанцінаўскай жаночай гімназіі пры Імператарскім жаночым інстытуце. Пазней выкладаў Закон Божы ў 12-й Петраградскай гімназіі.

З беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам звязаны з часу вучобы ў Пецярбургу. Належаў да культурна-асветнага гуртка беларусаў-клірыкаў. Разам са святаром Люцыянам Хвецькам заснаваў першую нацыянальна-рэлігійную арганізацыю Хрысціянская дэмакратычная злучнасць. Шырока выступаў у беларускіх перыядычных рэлігійных выданнях („Krynica", „Chryścijanskaja Dumka" і іншых). Быў адным з арганізатараў і ўдзельнікаў Першага з'езда беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску ў 1917 г., дзе выступіў з рэфератам „Справа прасветная". Сябра саюза ксяндзоў-беларусаў. Вясной 1918 г. адміністратарам Магілёўскай архідыяцэзіі біскупам Эдуардам Ропам камандзіраваны ў Мінск, дзе стаў адным з кіраўнікоў Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці. Пры падтрымцы біскупа Зыгмунта Лазінскага, ініцыятара адкрыцця Мінскай духоўнай каталіцкай семінарыі, абраны яе рэктарам.

З верасня 1919 г. быў сябрам Рады Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску. Уваходзіў у склад дэлегацыі беларускіх дзеячаў, якую 19 верасня 1919 г. прыняў у Мінску Юзаф Пілсудскі. Планавалася, што ў Міністэрстве замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі атрымае пасаду кіраўніка Місіі ў Рыме.

У пачатку 1920-х гадоў працаваў выкладчыкам эвакуяванай у Навагрудак, а пазней у Пінск, каталіцкай семінарыі. З 1926 г. — у ордэне айцоў марыянаў у Друі. Потым узначальваў каталіцкую місію ўсходняга абраду ў Маньчжурыі і Кітаі. Браў удзел у пасяджэннях Генеральнай капітулы марыянаў у Рыме.

Улетку 1939 г. быў у Заходняй Беларусі, напрыканцы года арыштаваны савецкімі „органамі бяспекі", зняволены ў Львове. Больш за пяць гадоў правёў у вязніцах. Памёр ад катаванняў 2 студзеня 1946 г. у Бутырскай турме ў Маскве, месца пахавання невядома. Памяць пра Фабіяна Абрантовіча ў Беларусі не ўшанавана.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Калі гэта скончыцца?

Такое пытанне жыхары Дабрывады ставяць бургамістру мястэчка Кляшчэлі спадару Аляксандру Сяліцкаму. Ад даўжэйшага часу цягнецца рамонт моста ў Кляшчэлях на вышыні пажарнага дэпо, таму вуліца для дарожнага руху ў напрамку Сямятыч і Чаромхі закрыта. Шафёры карыстаюцца аб'ездам праз Дабрываду і Кузаву. І ў Дабрывадзе з гэтым вынікла праблема. Пачатак маставой дарогі з Кляшчэляў у сяло збудаваны з гравію ды ненайлепшай якасці бруку. У летні час пры трыццаціградуснай спёцы пры праездзе аўтамабіля падымаюцца туманы пылу. Жыхары прыдарожных дамоў не маглі адкрываць акон, паколькі туманы пылу пранікалі ў кватэры. Жыхары сяла звярталіся да мясцовага самаўрада, каб пры ўездзе на забудаваную тэрыторыю паставіць знак абмежавання хуткасці да 40 км/гадз. Безвынікова. Зараз праз Дабрываду штодзённа праязджаюць дзясяткі машын. Шафёры не прытрымліваюцца дарожнага закону і шпараць вясковай вуліцай неаднойчы з хуткасцю 70-80 км/гадз. Гэта ж пагражае дарожнай аварыяй! Прытым маставая дабрывадскай вуліцы ненайлепшай якасці. Да зімы ў такім стане не вытрымае, узнікнуць ухабіны. Хто тады іх будзе латаць у зімовы час. Матушка натура? Ці не варта ўжо зараз задумацца? Прымаўка напамінае: «Не пара сабак карміць, калі на паляванне ісці трэба». Разважце гэта паважаныя кіраўнікі кляшчэлеўскага самаўрада.

**(ус)**

**НАШЫ карэспандэнты**

## Папраўка

У тэксце «Кузаўскі ўспамін» надрукаваным у «Ніве» № 36 мною была допушчана памылка. Было напісана, што «апошняй у канцы вёскі, перад чыгуначным віядукам была казарма Яна Смалярука, які ажаніўся з Марыяй Казлюковай з-за Кляшчэль». Павінна быць: «які ажаніўся з Надзеяй Казлюковай з Пятроўшчыны». За памылку прашу прабачэння ў рэдакцыі і чытачоў.

**Уладзімір СІДАРУК**

STUDZIWODY 1514

**STUDZIWODY SIEHIENIEWICZÓW**

**ŚWIĘTO PRZEDMIEŚCIA**
**(IV Spotkania kulturowe)**
**14 września 2019 roku**

**Muzeum Małej Ojczyzny w Studziwodach,**
**Bielsk Podlaski, ul. Sosnowa 17**

**13.30** Spotkanie z Barbarą i Rolandem Klossami, potomkami prof. Emiliana Adamiuka
**14.00** Odsłonięcie i wyświęcenie „Panoramy Studziwodzkiej” - historyczno-artystycznej wizji Studziwód, stworzonej przez Anatola Turkowa i Doroteusza Fionika
**14.30** Wykład prof. Antoniego Mironowicza poświęcony rodzinie Siehieniewiczów. Prezentacja historyczno-edukacyjnej wystawy: „Emilian Adamiuk i Józef Tokarzewicz – synowie jednego miejsca i czasu”
**16.00** Koncert zespołów z Kobrynia: „Taukaczyki”, „Mahdalina”, „Zaranica” i „Żurawiny”

**ŚWIĘTO WSI ROMANÓWKA**
**СВЯТО ВЁСКІ РОМАНЎОВКА**
**15 WRZEŚNIA 2019 r.**

**13.30** PLAC PRZY KAPLICY
Molebień przy kaplicy z Ikoną Spasa
**14.30** PLAC PRZY ŚWIETLICY WIEJSKIEJ
- odsłonięcie rzeźb oraz wernisaż wystawy obrazów olejnych, powstałych w trakcie pleneru malarsko-rzeźbiarskiego „Studziwody – Romanówka”
- Kiermasz książek i rękodzieła
- Koncert zespołów białoruskich z Podlasia i Białorusi:
ŽIMERWA (Studziwody)
TAUKACZYKI (Kobryń)
MAHDALINA (Mahdalin)
ZARANICA (Mahdalin)
ŽURAWINY (Kobryń)

## 15.09 — 21.09

**(22.04.— 20.04.)** 16-22.09. будзеш адораны адвагай і жылкай да інтарэсаў. Але дзейнічай асцярожна. Лепшы час у адносінах. Сінглы могуць сустрэць каханне жыцця. Не саромейся прасіць дапамогу, калі не даеш рады. Добра заінвестуеш грошы ў курсы і абучэнні. У адзенні пастаў на колер.

**(21.04. — 21.05.)** Больш рамантызму. Але 17-21.09. больш стрэсаў. Прынамсі чвэрць гадзіны прысвяці самому сабе. Ахопіць цябе шаленства, але галаву не страціш. Будзеш мець прыбыткі дзякуючы супрацоўніцтву. Паваліцаца твае спеласць і ангажаванасць. Аддзеліш зерне ад паловы, засяродзішся на найважнейшым. На працы не паказвай сваіх слабасцей і не выяўляй сакрэтаў.

**(22.05. — 22.06.)** 15.09. — хаос і замяшанне, пільнуйся ад памылак і згубаў. Калі 15.09. будзеш баяцца вырашальных сітуацый, не пойдзеш уперад. На працы трымайся плана. Настрой да адважных дзеянняў. Але вернецца і спакой духа. Цікавей у самотных Блізнюкоў. Вернецца пачуццё гумару! Не ўскладняй сабе працы. Для шукаючых работу добрыя весткі. На размове прыемная атмасфера, толькі пільнуй свайго языка, не ляпні чаго не на месцы. Знойдзеш дасканалы спосаб, каб справіцца з прыкрымі клопатамі.

**(23.06. — 23.07.)** Сродкі павялічыць Венера ў Дзеве. Загрузішся энергіяй. Навучышся пазітыўнага мышлення. На працы заняткаў столькі, што не трэба будзе сіліцца і заставацца пасля работы. Еж кашы, гародніну, рыбы, арэхі, пі сок з бурака — гэта цябе ўзмоцніць. З 21.09. не задзірай з чыноўнікамі.

**(24.07. — 23.08.)** 15.09. не пасварыся з партнёрам з-за грошай. Ад 16.09. (да 26.09.) станеш у абароне пакрыўджаных і слабых. У другой палове месяца расслабішся і будзеш цешыцца жыццём. Ільве з ІІ дэкады — трымайся далёка ад чужых спрэчак. Пільнуй фінансавых спраў. Справішся з праблемамі, знойдзеш выхад. Будзь разважлівым, не ўлазь у зусім непатрэбныя сітуацыі.

**(24.08. — 23.09.)** Творчае натхненне. Не плануй, а бярыся за дзеянні. З 18.09. вялізная інтуіцыя, дзякуючы якой палапаешся ў кожнай сітуацыі. Не дайся ўвалачы ў здзелкі, на якія не маеш ахвоты. Выдатная форма, але не рвіся да саперніцтва, прытармазі ахвоту ўсюды быць пераможцам, бо можа ўсё кончыцца кантузіяй.

**(24.09. — 23.10.)** Некалькі цікавых сустрэч. 17-21.09. можаш паказацца ў вельмі некарысным святле. Затое з 15.09. сезон на рандэву, прыцягнеш не аднаго прыхільніка (-цу), могуць нават за цябе пабіцца! Удалыя і іншыя сустрэчы. Не раскідвайся грашыма, якіх яшчэ не маеш. Павышэння прыйдзецца яшчэ пачакаць. Выслізнешся з нявыгадных сітуацый. Інтуіцыя і ўмеласць правільнага адчування схільнасцей атачэння.

**(24.10. — 22.11.)** 15.09. не закахайся без толку ў «бавідамку». Добрыя змены, выбірай, слухаючы свайго сэрца. Пачуццёвае жыццё набярэ новых колераў. 16-22.09. пазбудзешся таго, што найбольш табе мяшае. З 19 (да 27.09.) могуць вярнуцца да цябе справы, аб якіх ты хацеў бы забыцца. Глядзі, з кім сябруеш, бо могуць цябе абшмараваць нават у сацыяльных сетках. Шыкуюцца большыя выдаткі. Еж часнок — ён не толькі страшылка на вампіраў!

**(23.11. — 23.12.)** 15.09. твой талент акажа вялікае ўражанне. Але 15.09. не дай сябе намовіць на рызыкоўнае мерапрыемства. Можаш выбрацца ў свет на спознены водпуск або будзеш планаваць канікулы праз год. На працы вырашыш усё самым простым спосабам. Зоркі задбаюць аб тваю красу.

**(22.12. — 20.01.)** Пачуццёвая стабілізацыя. Узнагарода за вернасць.16-22.09. загарыцца агонь кахання. З 21.09. не парві адносін з раднёй, не выказвайся ў гневе. Знакаміты момант на ўласны развой. Добры настрой. На тваім шляху сустрэнуць цябе спрыяльныя людзі.

**(21.01. — 19.02.)** Усё пойдзе па тваёй думцы. Падарунак, які атрымаеш 17-21.09. прынясе табе больш турбот, чым радасці. Будзеш папулярны, але час ад часу захочацца табе пабыць у самоце. На працы будзеш рэалізаваць больш амбітныя задумы. Пазбягай спрэчак з партнёрам, асабліва калі разам працуеце.

**(20.02. — 21.03.)** Рэалізуй планы, якія патрабуюць адвагі і нават адчаю. Стрэсуючая праца можа аказаць кепскі ўплыў на тваю радню — захавай раўнавагу і дыстанцыю, каб не быць лёгкім ад 16.09. (да 26.09.). 16-22.09. адчуеш сябе лепш, мінуць нямоглацсі. Усе бар'еры — хутчэй у тваёй галаве! Трэніруючы цела, не забудзь пра галаву, вучыся новаму.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую прымаўку.

1. травяністая расліна сямейства ароідных = 31 _ 32 _ 2 _;
2. светла-карычневы колер = 15 _ 28 _ 27 _;
3. прадукты харчавання = 14 _ 8 _ 5 _;
4. Іпацій, арганізатар Берасцейскай уніі = 1 _ 3 _ 21 _ 24 _ 29 _;
5. глыбокі акоп у напрамку праціўніка (у слове *Сапата*) = 17 _ 12 _ 18 _ 10 _;
6. маладая кароўка = 6 _ 7 _ 13 _ 11 _;
7. самка цецерука = 4 _ 26 _ 25 _ 16 _ 19 _ 9 _ 20 _;
8. Джордж Бернард, ірландскі літаратар = 30 _ 22 _ 23 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | | | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 33 нумара**

Бак, Купрын, паб, Піза, пяро, Рылееў, сук, трэць, цела.

Рашэнне: **Каб прыкурыць папяросу не трэба лезці ў пекла**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

**Я шчэ дзесяць гадоў таму здавалася мне, што нашы тутэйшыя чыгуначныя лініі чакае поўны занядад. Але ж пачалі з'яўляцца цуды, у выніку якіх паволі той чыгуначны транспарт уваскрасае. Некаторыя пуці рамантуюцца, на некаторых астаюцца ляжаць старыя рэйкі і шпалы.**

Некалькі ўжо гадоў абнаўляецца лінія паміж Беластокам і Чаромхай. Немаладая ўжо гэтая лінія, фрагмент даўняй Берасцейска-Граеўскай чыгункі, якая была здадзена ў карыстанне ў ліпені 1873 года. Пракаціліся па ёй дзве сусветныя вайны, выкацілася па ёй і нядаўняе пасляваеннае пакаленне нашага народу з тутэйшых вёсак у шырокі свет. Выкацілася, а чарговага стала малавата для чыгуначнай рэнтабельнасці і настаў нават такі момант, калі і зусім быў спынены рух. А ў чарговы момант у нейкіх далёкіх ад нас вярхах выспелі задумы вярнуць гістарычныя чыгункі ў жыццёвы кругаварот. Быў узноўлены рух паміж Беластокам і Чаромхай, а нават на кароценькі момант вярнуўся той рух на лінію між Бельскам і Гайнаўкай. На гэтых лініях паклалі новыя пуці, а на апошняй нават пабудавалі вельмі сучасныя чыгуначныя прыпынкі. На лініі паміж Беластокам і Чаромхай на гэты момант толькі некаторыя, але і гэта трэба ў нашых умовах лічыць прагрэсам.

Прагрэс гэты на згаданай лініі адбываецца перыядычна. Значыць час ад часу спыняецца рух цягнікоў, а заміж іх едуць у трасу аўтобусы. Вось і гэты верасень амаль поўнасцю адведзены чыгуначным аўтобусам, якія не па рэйках курсіруюць, толькі па недалёкіх жвіроўках-асфальтоўках. Такім чынам я пакарыстаўся нагодай прайсціся па рэйкавых пуцях каля Бельска. Задзівіла мяне, што зараз за бельскай станцыяй рэйкі скінуты з чыгуначнага палотнішча, хаця іх туды цалкам нядаўна паклалі. Магчыма, што зроблена гэта дзеля нейкага абнаўлення моста на рацэ Белай, бо ён звонку выглядае моцна састарэлым і магчыма, што і ягоная магутнасць паслабела і патрэбнае там новае маставое пакаленне.

Крыху далей масток над нейкім раўчаком. Канструкцыя простая — дзве бетонныя сценкі зверху злучаныя бетоннай перакладзінай. Цяпер той масток чакае мадэрнізацыя — ужо нарыхтавана труба, па якой мае пацячы вадзічка раўчака...

У Леўках паварочваю налева, на пуць у напрамку Гайнаўкі. Незвычайная тая чыгуначная лінія — пішацца пра яе, што збудавалі яе цягам 57 дзён; здалі яе ў карыстанне ў чэрвені 1895 года. Даўжыня яе — 24 вярсты: будавалі амаль палову вярсты за дзень — гэта стаханаўскі тэмп. Мабыць была такая пільная патрэба, бо ж будавалі яе цару Мікалаю II, каб той мог даехаць да Белавежскай пушчы на паляванне. У 1897 годзе прадоўжылі яе на чарговыя 20 вёрст — у Белавежу; здалі яе ў карыстанне ў жніўні. З таго часу цар мог прыязджаць цягніком у самую Белавежу.

Тэмп пабудовы гайнаўска-бельскага адрэзка ўражвае, бо ж цягам дня насыпаць ці раскапаць амаль 450 метраў гэта вялікі подзвіг. Да таго збудаваць масты на ручайках і раўчуках, і пакласці роўна рэйкі, каб царскі поезд не перакуліўся, як гэта было здарылася некалькі гадоў раней...

Калі прыняць, што дзеля пракладкі двух метраў чыгуначнага насыпу патрабавалася пераваліць тону зямлі, тады цягам сутак на нашай лініі трэба было б пераваліць 225 тон зямлі. Аляксей Стаханаў, які стаў героем савецкай працавітасці, цягам няпоўных шасці гадзін здабыў, заміж нарматыўных сямі, 104 тоны вугалю — усё сваімі рукамі, без коней і падвод. Такімі тэмпамі сам Аляксей Стаханаў пабудаваў бы нашу чыгунку цягам 123 дзён. У легендарную даўніну толькі Геркулес спраўляўся з такою нагрузкай...

Зараз цары не ездзяць па той лініі, бо цароў акурат не стала; перастаў ёю карыстацца і радавы народ, які таксама моцна растварыўся па шырокім свеце, а заміж стаханаўцаў на працу выходзяць мадэрныя машыны. Мабыць дзеля спынення таго адтоку радавога народу з нашай тутэйшай тэрыторыі нейкія высокія чыны прынялі рашэнне мадэрнізаваць тую славутую лінію. Абгрунтаванне рашэння такое: „Zwiększenie dostępności Polski Wschodniej w zakresie infrastruktury kolejowej oraz wzmacnianie potencjału rozwojowego makroregionu poprzez poprawę dostępności transportowej".


Каля Парцава

# Па строгай логіцы


Канструкцыя новага моста каля Вулькі




Лінію прыгожанька змадэрнізавалі, паклалі новыя рэйкі, пабудавалі новыя, мадэрныя прыпынкі з усімі сучаснымі пасажырскімі патрабаваннямі. І нават у мінулым годзе праехаў па ёй поезд, а можа і больш. А можа толькі адзін раз, каб праехаліся нашы высокія чыноўнікі; бо нашы высокія чыноўнікі вельмі любяць катацца — калі не ў самалёце, то хаця ў чыгуначным вагоне.

І мабыць тыя нашы чыноўнікі дайшлі да вываду, што гэтую лінію трэба мадэрнізаваць яшчэ болей. І зараз жа сталі яе яшчэ больш мадэрнізаваць. Пакласці новыя рэйкі было мала, цяпер узяліся за абнаўленне мастоў і масткоў. Дзеля гэтага над нашымі ручаямі і рачулкамі сарвалі толькі што пакладзеныя рэйкі і сталі ўзводзіць мадэрныя пратокі і масты. Каля Парцава для ручайка, у якім зараз крыху вады, пакладзена вялікая мадэрная труба; яна ўжо засыпана насыпам і чакае толькі вярнуць на сябе рэйкі. Каля Вулькі была звычайная пратока, але мае там быць салідны мост. Ужо стаяць рыштаванні, ужо заліты бетон — так зверху як і знізу...

А што ж з самым магутным маставым збудаваннем на славутай трасе, мостам на Арлянцы каля Міклашоў? Там таксама запушчаны працэс мадэрнізацыі. Зараз там скінуты старыя двухтаўровыя жалезныя перакладзіны, заходняя бетонная апора ўжо разбіта ў друз, з гэтага ж боку яшчэ і бурыльныя машыны. Усходняя апора яшчэ не кранута. Сама Арлянка ў сухое лета звужваецца да ручайка, з якога відаць і драўляныя палі, што сведчаць пра ўзарванне моста ў час вайны. Па ўсім відаць, што і тут будзе ўзведзена новае маставое збудаванне, яшчэ больш магутнае чым каля Вулькі. Рэкордных тэмпаў, такіх як у царскі час, здаецца, тут не прадбачваецца; здаецца таксама, што мадэрнізацыя гэтай лініі зойме нашмат больш гадоў, чым месяцаў яе пабудова з нуля...

Задумалася мне вярнуцца ў не надта далёкае мінулае гэтай лініі, а менавіта ў напрамку разважання на ёй пасажырскіх прыпынкаў. У пачатках маёй памяці былі Старое Беразова і Арлянка. Пасля, у час будавання „Другой Польшчы", з'явіліся прыпынкі Хітрая і Мора. А мог з'явіцца і яшчэ адзін прыпынак, у Вульцы менавіта, куды не толькі з Вулькі, але і са Спічкоў і Парцава было б зручна; захады насельніцтва згаданых вёсак у гэтым напрамку былі. Але такое не адбылося і я крыху здагадваюся чаму. Менавіта ў гады наступу г.зв. народнай улады згаданыя вёскі не надта рваліся да тагачаснага прагрэсу — да калектывізацыі. Вось крыху вытрымак з „Газеты Беластоцкай" з 1955 года: „We wsi Parcewo od dłuższego już czasu istnieje komitet założycielski spółdzielni. Na skutek słabej pracy z tym komitetem, a także z mieszkańcami gromady, nie może jakoś u nas dojść do zorganizowania spółdzielni. (...) Powszechnie mówi się, że Parcewo to najbardziej oporna gromada w pow. bielskim i najlepszy aktywista nic tam nie zdoła zrobić". Ці ж такая грамада з названых трох вёсак, якой не хацелася быць авангардам, заслугоўвала на чыгуначны прыпынак? А аставайце ж вы Польшчай Б...

Можа каго здзівіць чарговасць мадэрнізацыі бельска-гайнаўскага адрэзка чыгункі — можа хто абурыцца, што мастоў не абнаўлялі да пракладкі новых пуцей. Па-мойму ўсё тут робіцца лагічна, бо ж бывалі ўжо ў свеце выпадкі, калі спярша будавалі масты, а пасля да іх не даводзілі дарог. І тут таксама магчымая была такая сітуацыя, калі змадэрнізавалі б масты, а мадэрнізаваць пуці адышла б чыноўнікам ахвота. Таму вось такі лагічны парадак: мабыць чыноўнікі спярша праехаліся дзеля прыняцця далейшых рашэнняў. І рашылі, што і масты абнавіць трэба; усё па чарзе, усяму свой час.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 37